PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 16 (2084) Год XLI Беласток 21 красавіка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Аляксандр Вярбіцкі

# Гібель Папоўкі

*Ludność położonej na terenie Puszczy Knyszyńskiej niewielkiej wsi udzielała wszechstronnej pomocy radzieckim partyzantom. 30.06.1943 r. żandarmeria niemiecka dokonała pacyfikacji Popówki, a 3 lipca 37 mieszkańców bestialsko wymordowano. Na terenie spacyfikowanej wsi, której po wojnie nie odbudowano, w 1960 r. położono kamień pamiątkowy. Obok głazu pamiątkowego wzniesiono pomnik.*

*(„Przewodnik po upamiętnionych miejscach walk i męczeństwa")*

Паехаў я ў Пяшчанікі шукаць нейкіх сведкаў здарыўшайся 53 гады таму трагедыі суседняй вёскі. Цяжка, аднак, з гэтым. Усе кіравалі мяне ў Беласток, да Элізы Матэйчук — адзінай ацалелай жыхаркі Папоўкі. Ніхто, аднак, не знаў яе адрасу. У адной з хат паказалі мне савецкую кнігу Аляксея Карпюка „Партрэт", частка якой прысвечана трагедыі Папоўкі. У ёй, аднак, толькі белетрыстыка, а адзіны канкрэт — 43 ахвяры, ніяк не супадаў з польскімі данымі.

Крыху расказала мне Вера Грэсь:

Знаеце, як гэта было пры немцах — што бачыў, то і не бачыў. Мы з партызанамі не былі звязаны, хаця ў партызанку хадзілі нашы вяскоўцы — яны найбольш там *дзялоў* рабілі. А так то людзі баяліся. Знаеце, там быў правакатар, і некалькі пяшчаніцкіх хат згарэла — тых, што каля Папоўкі кароў пасвілі. Тады, як вывозілі Папоўку, усім пяшчаніцкім, што мелі коней, раніцай загадалі ехаць. Майго мужа дзядзькі там жылі. Дзядзькава дачка просіць, каб *коц* даць, дзяцей прыкрыць, бо рана холадна было. Але хто там таго коца да яе дапусціў... Бо людзі ўжо былі пагружаны на фуры, а нашы паехалі толькі рэчы забіраць — везці да амтскамісара ў Гарадок, які пасля ўсё распрадаваў. Мой муж свае авечкі, што каля Папоўкі пасвіліся, хацеў адкупіць, але на яго выскачыў: Ага, то ты дабытак аддаў бандытам на мяса! А вёску спалілі ўдзень на нашага Яна.

Толькі расказала Вера Грэсь. Муж яе быў ваеннапалонным у Казельску — радавых выпусцілі, а *тыя* ўсе асталіся.

Заглянуў я ў кнігу Аляксандра Амільяновіча „Zanikające echa", дзе адведзена раздзел на асобу спомненага правакатара. Быў ім беластоцкі прайдзісвет Яўген Бівойна, які пранік у партызанскі атрад, што дзейнічаў каля Папоўкі. Гэта ён даказаў немцам, што ў Папоўку заходзяць партызаны. Апрача Папоўкі за яго справай былі расстраляны 56 жыхароў Сакалды і Лазняў. Перад фронтам уцёк на Захад.

Удалося мне адшукаць адрас Элізы Матэйчук. Вярэдзіла душу, ці сваім пытаннем не разару я яе прыгоеных часам ран. Баляць яны яшчэ болем у вачах. Слёзы ўжо выплакаліся, толькі раз, падчас апавядання, задрыжаў падбародак:

Старэйшых за 60 гадоў у вёсцы не было, мая мама мела 60 гадоў. Былі дзеці — аднаму быў год, аднаму два, аднаму тры. З Пяшчанік было адно сужонства з адным дзіцём, аднагадовым. З Папоўкі у адной сям'і было чацвёра дзяцей, у другой было чацвёра дзяцей, у трэцяй было шасцёра і ў чацвёртай сям'і было шасцёра. Ад аднаго да дванаццаці гадоў дзеці былі.

Не знаю, чаму на помніку напісана, што здарылася гэта 3 чэрвеня. Дакладная дата — 3 ліпеня 1943 года.

Трыццаць сем чалавек расстралялі — палічылі туды і маю сястру, што жыла ў Саколі, і якая загінула невядома дзе. Дзесь у лесе; акурат 16 ліпеня, як беластоцкае гета ліквідавалі, яе забралі з Саколя. Знайшлі потым яе заграбаную ў лесе з якойсьці расіянкай з Міхалова. А мужа яе забілі два тыдні раней; пахаваны каля тартака, што за Саколем. Бо тады яе дома не было, то яго забралі, а пасля, па двух тыднях, то і яе... Гаварылі, што ён жыд, але не. Ён, зрэшты, і сам не ведаў, кім ён, бо быў з сірочага дома. А што быў чорны, то так і падумалі — а папраўдзе мог гэта быць і грузін.

Мне тады было 18 — я толькі і сястра ў бацькоў былі. Бацьку забралі ў турму год раней, 30 чэрвеня 1942 г. А пасля года, 1 ліпеня забралі мужчын, 2 ліпеня забралі жанчын і дзяцей, а 3 ліпеня, у суботу, усіх іх расстралялі — на жыдоўскіх могілках у Гарадку. Бацька не знаю дзе — ці ў Грабоўцы, ці ў Навасёлках, ці дзе пахаваны — дадому не вярнуўся. Як прыйшлі немцы нас забіраць, мама падказала мне: Хавайся! А куды схаваешся, як поўна немцаў навокал. Думалі, што на работу ў Нямеччыну будуць забіраць. То я з ложка і пад ложак схавалася. Увайшлі ў хату і пытаюцца: Хто тут жыве? Мама кажа, што дзве: яна і мая сястра. А сястра тады ў нас не начавала, то забралі толькі маму. А я сядзела пад ложкам даўжэйшы час. Гляджу — дзверы паадкрываны, немцы ўваходзяць і выходзяць. А ў нас такая ніша пад печчу была, *кучай* называлі — то я туды. Але

*(працяг на стар. 9)*




*Навесну 1945 г., калі ўжо немцаў не было, перапахавалі пабітых.*

Ганна Кандрацюк

# Прадвесне ў Кнарыдах

Красавіцкае прадвесне. Сонечны, велікапосны дзень. У Кнарыдах яшчэ многа снегу. З панадворкаў даходзіць сакатанне курэй. Уся вёска пахне гноем. Гэта самыя працавітыя земляробы пачалі вазіць гной у поле. Іншыя цярпліва чакаюць.

— Хутчэй бы гэтая зіма мінула, — чуюцца нараканні. — А так з вёскі не рушыць, дарогі раскіслі, — кажа мужчына побач крамы. Гаворка, зразумела, пра палявыя дарогі, бо спалучэнне са светам тут зусім ня дрэннае. Лёгка сюды дабрацца, лёгка ад'ехаць. Кнарыды распаложаны побач гуллівай шашы з Беластока ў Люблін. Гэта даўжэзная і людная вёска.

Вуліца са шматлікімі раздарожжамі цягнецца праз паўтаракіламетравую, цесна забудаваную мясціну. Да вайны былі тут тры фальваркі: Кнорыды-Лесьнэ, Кнорыды-Дольнэ і Кнорыды-Сьрэдне. Пазней ладзілі тут калгас. Вёска аднак не захапілася калектыўнай гаспадаркай і з 60-х гадоў пачала набываць сельска-рабочы характар. Многія знайшлі дадатковую працу ў недалёкім Бельску. І хіба дзякуючы гэтаму вёска перажывала з трыма пакаленнямі. У Кнарыдах працуе пачатковая школа. Вучыцца ў ёй за 80 дзетак. Палову давозяць з дзесяці мясцін. Наваколле вымірае. Апошнім часам далучылі сюды школу з Дубяжына.

— Цяпер у нас дзеці з чытырох парафій, — гаворыць дырэктар школы Сцяпан Стральчук. Дзесяць гадоў працуе ён у Кнарыдах і ведае кожнае дзіця па імені.

— Войт паабяцаў нам спартыўную залу, — кажа спадар Стральчук пра будучыню.

Нягледзячы на надзейны стан школы, у саміх Кнарыдах прысутны таксама подых знішчэння. Многія сем'і маюць паталагічны характар. Дзе як дзе, а ў школе відаць гэта найбольш.

— Ужо трыццаць працэнтаў дзяцей патрабуе сацыяльнай дапамогі, — чую ад настаўнікаў.

Надзея Аўярчук, былая дырэктар школы ў Дубяжыне, апякуецца дзяўчынкай, якую выхоўвае сямідзесяцігадовая бабуля. Бацькі не праяўляюць зацікаўлення трынаццацігадовай дачушкай.

У Кнарыдах вядомы нашым чытачам калектыў „Бярозкі". Жанчыны ганарацца, што сёлета выступілі ў час фестывалю беларускай песні. Дзеля бліжэйшага знаёмства з „Бярозкамі" сустракаюся са спявачкай Зосяй Цар. У хаце — перадсвяточныя парадкі. Ды і ва ўсёй вёсцы яны прыкметныя. Мно-

*(працяг на стар. 3)*

# Мы прачыталі

*Integracja z Rosją może być dla Łukaszenki jedynym wyjściem, gdyż zwolni go od odpowiedzialności za katastrofę gospodarczą. Jest jeszcze inny powód, który sprawia, że Łukaszenka ciąży ku Rosji. Na Białorusi jest mu już za ciasno i chce być postrzegany jako ten, który „zjednoczył Słowiańszczyznę". Dopóki jednak Jelcyn jest przy władzy, dopóty mowy nie ma o żadnej federacji czy związku państw. Wszystkie formy zbliżenia oznaczają wzięcie sobie na kark białoruskiej zrujnowanej gospodarki i nieobliczalnego prezydenta, który nie zadowoli się rolą marionetki. A uściski i pocałunki z Łukaszenką mogą się przydać Jelcynowi w kampanii wyborczej.*

*Wprost, nr 13*

Спачуваем спадару Ельцыну.

* * *

*Rejestr partii politycznych prowadzony przez sąd warszawski wzbogacił się w tym roku o dalsze 4 pozycje. Zarejestrowanych jest obecnie ponad 300 organizacji politycznych. Ostatnim klientem sądu był obywatel Kąt, który zażądał rejestracji jednoosobowej partii, czyli samego siebie, pod nazwą Partia Uczciwych.*

*Polityka, nr 12*

Добра, што прынамсі адзін сумленны грамадзянін знайшоўся ў краіне! Магло быць горш.

* * *

*Obyczaj chrześcijański jest w Polsce silny. Europeizacja mu nie grozi.*

*Gazeta Wyborcza, nr 74*

* * *

*Przyszła wiosna, 300 tysięcy 19-latków stanęło do poboru. Połowa z nich uzyska odroczenie, jako niezdolni do służby wojskowej. Do armii trafia jedynie ten, który się zagapił. Gwałtownie przybyło chorych psychicznie i znerwicowanych, alkoholików i narkomanów. Najlepiej leczyć się u lekarza, który zasiada w komisji przedpoborowej. Czasem z papierów poborowego wynika, że jest on tak ciężko chory, że nie wiadomo, jak doszedł na komisję. Do wojska trafia najwięcej poborowych z wykształceniem podstawowym.*

*Polityka, nr 13*

У той час, калі тэлебачанне паказвала змагарныя дарогі Янка, Густліка, Шарыка, Марусі ці капітана Клёса, усе маладыя хлопцы хацелі служыць у войску. Большасць проста марыла стаць танкістамі, а ў горшым варыянце — шпіёнамі ці разведчыкамі.

* * *

*Konflikt wokół polskiej szkoły w Grodnie trwa. Władze Grodna, nie zważając na sprzeciw rodziców, wręczyły Reginie Guleckiej nominację na stanowisko dyrektora polskiej szkoły. Nominację popiera prezes Związku Polaków na Białorusi Tadeusz Gawin i minister oświaty Białorusi. Władze Grodna chciałyby wprowadzić do polskiej szkoły również klasy białoruskie. W sprawę zaangażowały się polskie władze konsularne w Grodnie, prezes Stowarzyszenia „Wspólnota Polska" Andrzej Stelmachowski, który o wszystkim poinformował kancelarię prezydenta Rzeczypospolitej Polskiej. Profesor Stelmachowski powiedział także, że „Wspólnocie" bardzo zależy na wyciszeniu sporów wewnątrz społeczności polskiej w Grodnie. Wewnętrzny podział to najfatalniejsza rzecz, jaka mogła się zdarzyć. Profesor Stelmachowski wszystkie zwaśnione strony zaprosił na rozmowy do Warszawy.*

*Kurier Poranny, nr 75*

Так нармальная дзяржава дбае пра інтарэсы сваіх суродзічаў. Цікава, аднак, было б пабачыць рэакцыю палякаў, калі б, напрыклад, дырэктар нейкай школы ў Беластоку заявіў, што ўсе класы будуць працаваць выключна на беларускай мове. Фантазія! Найгаласней пратэставалі б самі беларусы.

* * *

*Nic tak nie cementuje, jak udział we władzy. Radni prawicowej „Jedności", rządzącej Białymstokiem, wzięli przykład z lewicowej koalicji SLD-PSL i niepodzielnie trzymają władzę w mieście. Swojego stanowiska bronią jak konfederaci barscy okopów Św. Trójcy. Bo, wiadomo, Polska dawno już padła. Belweder zdobyty. Rząd lewicowy, Sejm lewicowy...*

*Kurier Podlaski, nr 64*

У гэтай дэмакратыі ёсць месца толькі для сарганізаваных кланаў. Грамадзянам пакінулі яны толькі абавязак плаціць розныя падаткі на ўтрыманне феадальнага — па сутнасці — класа.

* * *

*Do roku 1244 Bielsk był nieprzerwanie grodem polskim. Po opanowaniu Bielska przez Litwę, książęta litewscy, stając się książętami księstw ruskich, przyjmowali prawosławie i w ten sposób starali się umocnić swoją władzę.*

*Gazeta Współczesna, nr 42*

Як відаць, у польскай гістарыяграфіі і публіцыстыцы наступіў нейкі прагрэс. Паводле вышэйсказанага, праваслаўныя на Беласточчыне не з'явіліся ў канцы XIX стагоддзя як царскі дэсант, а толькі ў палове XIII стагоддзя — як літоўска-рускі дэсант. Ёсць пэўныя сляды, якія дазваляюць сцвердзіць, што Бельск ужо ў V стагоддзі запоўнены быў польскамоўным насельніцтвам з познаньска-паморскім акцэнтам, а яшчэ раней — украінскамоўным, з запарожскім вымаўленнем „о".

* * *

*My wytrzymamy wszystko: kłamstwo, zdradę, kurestwo i każdą podłość.*

*Wprost, nr 13*

Мы таксама — аб чым ветліва інфармуем усіх нашых „сяброў".

# З мінулага тыдня

**Польшча хоча пачаць новы раздзел у зносінах з Расеяй,** нягледзячы на істотныя розніцы ў падыходзе абедзвюх краін да пытання бяспекі, а візіт прэзідэнта **Аляксандра Кваснеўскага** ў Расею павінен адкавіць новыя перспектывы для ўзаемаадносін, у якіх у будучым будзе пераважаць гаспадарчае супрацоўніцтва, — заявіў напярэдадні прэзідэнцкага візіту міністр замежных спраў **Дарыюш Расаці**. Міністр сказаў таксама, што ён не спадзяецца на тое, што Расея згодзіцца, каб Польшча ўступіла ў НАТО. Дадаў ён, што Польшча гэтага не чакае і да атрымання такой згоды не імкнецца.

**Гэта быў вельмі патрэбны і ўдалы візіт,** — заявіў прэзідэнт **Аляксандр Кваснеўскі** на заканчэнне свайго афіцыйнага візіту ў Маскву. Сказаў ён таксама, што не было падстаў чакаць згоды Расеі на ўваход Польшчы ў НАТО і самым важным палічыў наладжаны ў гэтай галіне адкрыты дыялог. Прэзідэнт падкрэсліў, што так як Расея не мае права вета ў справе пашырэння НАТО, так і Польшча не мае права вета ў адносінах да расейска-беларускага прыбліжэння. Усё, што здзяйсняецца паміж Расеяй і Беларуссю ўпісваецца ў рамкі еўрапейскай інтэграцыі, якая з'яўляецца дамінуючым працэсам на нашым кантыненце.

**БЗПОВ** — Беластоцкае прадпрыемства перапрацоўкі садавіны і гародніны плануе ўвайсці на беларускі рынак. Гэта вынік гаспадарчай місіі, якая пабывала ў Менску і правяла размовы з дваццаццю мясцовымі фірмамі. Для дасягнення гэтай мэты мае быць створана гандлёвая суполка, якой польскі бок паставіць тэхналогію і дапаможа капіталам.

**Два верталёты** для патрулявання ўсходняй мяжы атрымаў Падляшскі аддзел Гранічнай аховы. Абедзве машыны будуць перш за ўсё кантраляваць польска-літоўскую мяжу, паколькі ў мінулым годзе зарэгістравана там 20 выпадкаў нелегальнага перасячэння мяжы кантрабандыстамі-самалётамі. Сёлета кантрабандысты-авіятары пераляталі цераз мяжу ўжо 5 разоў.

**Беластоцкая паліцыя** правяла кантроль аўтамашын, якія перавозяць небяспечныя матэрыялы. З ліку 43 правераных машын у паловы былі выяўлены нейкія хібы, а дзесяць шафёраў былі аштрафаваны.

**Новы закон аб паляўнiцтве,** які абавязвае ад 18 лютага г.г., даў ужо першыя вынікі. У Міхалове паліцыя ўзбудзіла крымінальную справу супраць 63-гадовага жыхара гміны, у якога былі знойдзены сілы і сеці. Згодна з новым законам злачынствам лічыцца ўжо само перахоўванне браканьерскіх прылад. Паліцыя мяркуе, што многія жыхары гміны займаюцца браканьерствам. Асабліва многа работы мае водны камісарыят у Бандарах, якога супрацоўнікі кожны год рэквізуюць па некалькі дзесяткаў сецей на Семяноўскім вадасховішчы.

**На Бугу, Супраслі, Нарве і Нурцы** ўтрымоўваўся павышаны ўзровень вады, што пагражала паводкай. У шасці гмінах Беластоцкага ваяводства была аб'яўлена паводкавая трывога. У Васількаве высокая хваля Супраслі амаль не заліла дарогі Е-8, якая вядзе да граніцы з Беларуссю.

Міністэрства аховы асяроддзя дало дазвол на **адлоў 180 баброў** у нашым рэгіёне. Бабровыя сем'і з паўночна-ўсходняй Польшчы будуць перасселены ў Катавіцкае ваяводства. Наш рэгіён — самы вялікі энклаў баброў у Польшчы. У Беластоцкім ваяводстве найбольш баброў жыве ў ваколіцах Заблудава, Агароднік, Іванак. Бабрыны статак ва ўсім ваяводстве налічвае каля тысячы штук. Кожнага году на Беласточчыне адлоўліваецца 20—30 баброў, якіх перасяляюць у басейн Одры.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Чаму мы хварэем** — адказвае лекар Ян Дрозд.
- **Ці маюць сэнс „чорныя маршы"** — задумоўваюцца Мікола Ваўранюк і Алег Латышонак.
- **Пра дзіўныя законы працы на пошце** — піша Уладзімір Сідарук.

# Весткі з Беларусі

**Прэзідэнты аб НАТО**

Менск не мае права ўмешвацца ў пытанні трэба ці не трэба Польшчы ўступаць у Паўночнаатлантычны блок. Гэта справа Варшавы, — заявіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 30 сакавіка ў Віскулях на сустрэчы з прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Кваснеўскім. У той жа час Лукашэнка выказаўся за тое, каб уступленне Польшчы ў НАТО не насіла фарсіраваны характар. Лукашэнка і Кваснеўскі прызналі, што іх краіны з'яўляюцца буфернымі. Па словах беларускага прэзідэнта, гэта дазволіла знайсці аднолькавыя падыходы да вырашэння тых ці іншых палітычных і ваенных праблемаў.

**Квітнеючая сям'я**

2 красавіка прэзідэнты Расеі і Беларусі падпісалі ў Георгіеўскай зале Крамля, у прысутнасці шматлікіх прадстаўнікоў грамадскасці дзвюх краін, дагавор аб утварэнні супольнасці дзвюх дзяржаў. Глыбока сімвалічна, што менавіта Расія і Беларусь першымі з краін СНД зрабілі такі выбар. Дзве краіны маюць адзіныя славянскія карані, у іх агульная шматвяковая гісторыя. „Расея і Беларусь робяць сёння гістарычны крок наперад, дзякуючы якому народы дзвюх краін увойдуць у XXI стагоддзе адзінай квітнеючай сям'ёй", — заявіў на цырымоніі падпісання прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

**Незалежніцкая дэманстрацыя**

У той самы дзень у Менску адбылася дэманстрацыя супраць падпісання расейска-беларускага дагавора аб утварэнні супольнасці абодвух дзяржаў. Маніфестанты неслі плакаты з лозунгамі: „Жыве Беларусь!", „Ганьба!", „Далой СССР!". Па падліках міліцыі, ля Палаца спорту на несанкцыянаваным мітынгу ў падтрымку незалежнасці сабраліся каля 30 тысяч чалавек. Міліцыя не дапусціла дэманстрантаў на плошчу Незалежнасці.

**Прадвесце рэпрэсій**

4 красавіка прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з журналістамі. Прэзідэнт яшчэ раз выказаў свой погляд на створаную супольнасць і пералічыў станоўчыя вынікі аб'яднання з Расеяй. Адказваючы на пытанні журналістаў, Аляксандр Лукашэнка папярэдзіў аб адэкватнай рэакцыі ў выпадку, калі Польшча і Чэхія размесцяць на сваёй тэрыторыі ядзерную зброю НАТО. Прэзідэнт выказаў незадаволенасць дзеяннямі шэрагу замежных дыпламатаў і журналістаў, у тым ліку і расейскіх, якія не так як трэба інтэрпрэтуюць падзеі ў Беларусі. Лукашэнка прыгразіў звольніць іх з работы з гэтай нагоды, паколькі ўжо вядуцца перамовы з кіраўніцтвамі расейскіх тэлекампаній ГРТВ, РТР і НТВ. Па словах прэзідэнта, з рэспублікі ў бліжэйшы час могуць быць высланы некаторыя заходнія дыпламаты, што прымалі ўдзел у дэманстрацыях пратэсту 24 сакавіка. Працягваючы тэму нядаўніх антыўрадавых акцый, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ён даручыў праваахоўным органам вызначыць выкладчыкаў навучальных устаноў, якія заклікалі сваіх студэнтаў удзельнічаць у несанкцыянаваным мітынгу. Такія выкладчыкі будуць звольнены з працы, абяцаў Лукашэнка.

**Ушанаванне Агінскага**

Па запрашэнні мэра Фларэнцыі дэлегацыя беларускай грамадскасці на чале са старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета па міжнародных справах Пятром Краўчанкам наведала Італію. У рымскім Пантэоне, дзе пахаваны прах сусветна вядомых дзеячаў навукі і культуры — Мікеланджэла, Галілея, Фермі і іншых, былі складзены кветкі да надмагільнага помніка нашага земляка, выдатнага кампазітара, дыпламата, гісторыка і грамадскага дзеяча Міхала Агінскага. У прысутнасці кіраўнікоў горада адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, дзе правёў апошнія дзесяць гадоў жыцця і дзе памёр наш выдатны зямляк.

**Бюст для бібліятэкі**

Гіпсавы бюст Францыска Скарыны папоўніў экспазіцыю Музея кнігі, які створаны пры Цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа ў Слоніме. Яго перадаў сюды мясцовы самадзейны скульптар Леон Багдан. Бюст выраблены да 500-годдзя беларускага асветніка і пабываў на многіх рэспубліканскіх і рэгіянальных выставах, дзе быў адзначаны прэміямі.

**Прыбіранне сталіцы**

У беларускай сталіцы традыцыйна ў красавіку праводзіцца месячнік па ўборцы і добраўпарадкаванні Менска, а 20 красавіка мяркуецца наладзіць агульнагарадскі суботнік. Для каардынацыі гэтай работы ў гарвыканкаме створана рабочая група на чале з віцэ-мэрам Уладзімірам Белахвоставым.

# Прадвесне ў Кнарыдах

(працяг са стар. 1)
гія гаспадыні павыносілі на платы падушкі і пярыны, каб праветрыць іх на веснавым ветры.

— У гэтым годзе будзем адзначаць дваццацігоддзе нашага *зэспалу*, — кажа Зося Цар.

Пакуль што кабеты з „Бярозак" не ведаюць, ці будуць святкаваць сваю гадавіну.

— Наш войт сказаў нам, — жаліцца пані Зося, — што калі хочам святкаваць юбілей, нам трэба перахрысціцца на ўкраінскі калектыў. Але мы не збіраемся перахрышчвацца. Якімі нарадзіліся, такімі памрэм, — гаворыць кнарыдская спявачка. Пазней паясняе, што іх артыстычная дзейнасць выплывае з патрэбы душы.

— Спяваем, каб адпачыць ад штодзённых турбот. Бо як у вёсцы, за каровамі, за свіньмі свету чалавек не бачыць. А так жанчыны маюць *разрыўку*.

У „Бярозках" апрача пані Зосі спявае сем кабет: Зіна Дунікоўская, Гэля Пашко, Люба Рыжык, Ірэна Красоўская, Ірэна Цар, Вера Цар, Лена Парфянюк і Крысціна Завадская.

— Адзначце абавязкова, што з намі спяваюць дзве каталічкі, — просіць пані Зося.

Абураюць яе ўсякага роду спекуляцыі вакол „Бярозак".

— Едзем усюды, куды нас запрашаюць, — гаворыць і называе ўсе мясціны, звязаны з падарожжамі калектыву: Гарадок, Венгажэва, Беласток, Белавежа, Бельск.

— Абы нас запрашалі, — зазначае пані Зося.

Свае песні развучваюць ад старэйшых жанчын, перакладаюць украінскія на мясцовы дыялект. Любімымі песнямі пані Зосі з'яўляюцца народныя песні „Выйді, выйді Іванку", „Ой там на горо́ді", „Там на грэблі".

— Наогул, люблю ўсе песні, — адзначае наша субяседніца.

У „Бярозках" спявае яна чатыры гады. Мастацкім кіраўніком іхняга калектыву з'яўляецца Аліна Нігярэвіч. Пытаюся пра вясковую ацэнку іхняй творчасці.

— Адным падабаецца, іншыя завуць лодарамі, — смяецца пані Зося, саракагадовая кабета. Доўга яшчэ гаворым пра вёску, пра жыццё на прадвесні.

Пазней заходжу яшчэ да спадарства Парфенюкоў. Солтыс аднак, пасля ранішняга пахмелля. Яго жонка раіць наведаць мне раднага Марыяна Матчука.

— У вёсцы многа перспектыўных гаспадароў, — расказвае радны. — Няма так, каб зямля аблагом ляжала. Толькі ніхто не інвестуе, бо такія часы насталі, што крэдытаў баяцца як нейкай пошасці.

Паводле раднага Матчука, самай пякучай праблемай Кнарыд з'яўляюцца дарогі.

— Бо апрача дарог, — кажа радны, — людзей хвалюе падзел на ўкраінцаў і беларусаў. Раней усе былі беларусамі. І самае клапатлівае, — адзначае радны, — што войт стаіць за „украінцамі". А ў вёсцы і так праблем хапае.

Мой суразмоўца — паляк. Але па мове гэтага ніхто б не заўважыў. Спадар Матчук гаворыць як і ўсе кнарыдскія палякі „па-тутэйшаму", гэта значыць на палескім дыялекце.


*Зося Цар і Сцяпан Стральчук.*

— У нас усе святкуюць „Пяценку" — адзначае цётка Ганна, жонка раднага — і палякі, і беларусы. І людзі жывуць дружна. Няма так, каб дзверы перад суседам зачынялі, — хваліць вясковае жыццё жонка раднага.

У Кнарыдах уся моладзь і дзеці гавораць ужо па-польску.

Пасля яшчэ іду ў мясцовую царкоўку. Знаходзіцца яна разам з могільнікам за вёскаю. Належыць яна да Боцькаўскай парафіі. Якраз велікодная служба. Там сустракаю яшчэ раз паню Зосю Цар. І ў царкве яна галоўны запявайла. Кнарыдская царкоўка адрамантавана паводле сучасных шаблонаў: панелі, „пазалочаныя" царскія вароты, многа штучных кветак. У царкве непаўторная акустыка. З прыемнасцю карыстаюся прапановай жанчын і далучаюся да іх хору.

У апошнія хвіліны перад ад'ездам бадзяюся непадалёк прыпынку. З вёскі даносіцца разналадная гамана вясковых выпівох. Дражніць таксама запаскуджаная сярэдзіна аўтобуснай пачакальні, дарэчы, так прыгожа адмаляванай звонку. Наўкол асфальту гразь і шыльда „Sprzedaż trumien". Уводдалі блішчыць яшчэ сярод нерастала снегу зялёна-блакітная каплічка. Туды хочацца пайсці замоклымі лугамі.

Вада з гэтай крыніцы памагае, кажуць вяскоўцы.

І мне таксама дае яна падмогу знайсці нейкі высновы праменьчык у невясёлай рэчаіснасці на прадвесні.

**Ганна Кандрацюк**


*Вялікапосныя спевы ў царкве ў Кнарыдах.*

# Падзяка

Выказваю шчырую падзяку ўсім, якія душою і сэрцам былі са мною ў цяжкія хвіліны — заўчаснай смерці маёй жонкі Галіны Хмялеўскай.

Шчыра дзякую старшыні ГП БГКТ Янку Сычэўскму і сакратару Валянціне Ласкевіч за ўсебаковую дапамогу звязаную з пахаваннем Галі. Выказваю таксама ўдзячнасць Марысі Паўлючук і Лідзе Ліс.

Сардэчна дзякую харысткам — Любе Гаўрылюк, Алі Дубец, Галіне Карбоўскай, Лідзіі Янчук і Ані Фёнік за незабыўны спеў падчас жалобнай урачыстасці ў маёй хаце, у царкве і на могілках.

Дзякую калектывам рэдакцый „Нівы" і „Часопіса", ГП БГКТ, хору з Гарадка, Грамадскаму камітэту пабудовы Беларускага музея і аддзелу БГКТ у Гайнаўцы за спачувальныя, ушаноўваючыя некралогі.

Асабліва глыбокую ўдзячнасць выказваю нашаму вялікаму паэту Віктару Шведу, які прысвяціў памяці Галі кранаючы верш „Развітанне" і чулліва прачытаў яго над яе магілай.

Дзякую святару Віталію Чыжэўскаму за хвалюючыя да слёз прамовы над труной нябожчыцы ў царкве і на могілках.

Дзякую ўсім тым людзям, якіх неспадзяваная смерць Галі засмуціла, якія складаючы мне спачуванні выказалі сумаванне і якія так масава з кветкамі прыбылі правесці яе да месца вечнага спачынку.

**Муж Галі — Міхась Хмялеўскі**

# Роднае сяло

Ой сяло, сяло раднoе,
Дзе я радзілася, жыву,
Чаму ж ты стала так пустое,
Сама цяпер я не пайму.
Даўней у сяле іграў гармонік,
Дзяўчат і хлопцаў радаваў.
Цяпер так ціха-ціха стала,
Зусім жа іншы час настаў.
А дзе ж цвет моладзі падзеўся?
Каму ж пакінулі яны
Сваю вясковую радзіму?
Дзядулям, бабкам аддалі.
Дзяды, бабулі ўжо старыя,
Штораз цяжэй на ногі ўстаць.
А іх жа дзеткі маладыя
Пайшлі жа горададнаўляць.
Цяпер у вольную хвіліну
Едуць на сваю радзіму,
Наведаць дзеда і бабулю,
Наладаваць сабе тарбулю.
Дзяды чакаюць сваіх дзетак,
Унукаў, як руж і кветак.
А яны не кветкі ці ружы,
А толькі вепрукі з калюжы.
Унукі абарваныя, лахматыя,
Сунуць да бабінае хаты.
І на бабку: „Каб ты трэсла,
Ты ўжо не *навачэсна*!"
Цяпер сучаснай трэба быць,
Каб нічога не рабіць.
Піць ды гуляць да знямогі,
Вось сучаснасці залогі.
Ой сучаснасць, ты, сучаснасць,
Бадай ты ўжо трэсла!
Дзяцей, унукаў папсавала
І ў горад усіх пазабірала.
І цяпер так салідарна
Гуляюць у горадзе ўдарна.
Рабіць на зямлі ніхто не хоча
І з мужыка кожны рагоча.

**Ніна Мінько**

# Лаўрэаты

3 красавіка гэтага года ў Беластоку адбыліся ваяводскія элімінацыі рускай мовы для вучняў пачатковых школ. Лаўрэатамі сталі: Іаанна Трашчотка і Малгажата Кучко — вучаніцы Пачатковай школы ў Махнатым (Гайнаўская гміна), Войцех Сутула з ПШ у Дуброве-Беласточкай, Галена Шаховіч з ПШ у Пасынках (Бельская гміна), Бэата Пліхта з ПШ у Малявічах (Сакольская гміна), Рэната Васілюк з ПШ н-р 3 у Гайнаўцы, Івона Вдовяк з ПШ н-р 1 у Саколцы, Міхал Бароўскі і Аніта Юргель з ПШ н-р 2 у Саколцы, Сабіна Філіманюк з ПШ у Чыжах, Мажэна Кусачук з ПШ у Чаромсе і Івона Мейлук з ПШ н-р 1 у Саколцы.

**(яц)**

## Няўдалая серыя

У пачатку мінулагодняга турыстычнага сезона ў Белавежы вядомы лодзінскі фатограф Януш Гарэзняк выпусціў серыю паштовак з шасці штук, на якіх паказаў цікавыя лясныя краявіды Белавежскай пушчы. І, вось, нядаўна вышэйзгаданы фатограф зарэкамендаваўся наступнай серыяй з пяці каляровых паштовак з некаторымі прадстаўнікамі белавежскай фауны. Каралю пушчы — зубру — прысвечаны аж тры паштоўкі. На апошніх бачым тарпанападобных konікаў і маладога ласяя. Новую серыю выпусціла прыватная фотастудыя вядомага кялецкага фатографа Паўла Персцінскага.

Усе, без адной, паштоўкі даюць побач здымкаў надпісы: „Белавежская пушча" або „Белавежа". На гэты раз Януш Гарэзняк не надта пастараўся з падборкай здымкаў — на трох паштоўках „красуюцца" зубры і лось у найменш фотагенічны перыяд — у час лінькі. На іншай паштоўцы зубр зняты ў позе, быццам пакутаваў ён ад скразняку. Тарпанападодныя конікі ў сваю чаргу... сінія!

Усё ж, турысты купляюць гэтыя паштоўкі, таму што вялікага выбару і так не маюць.

**Пётр Байко**

## *Запрашэнне*

Ваяводскі асяродак анімацыі культуры і Піўзавод „Дайліды" сардэчна запрашаюць на чарговы канцэрт з цыкла „Падляшскія сустрэчы з арыяй", які адбудзецца 28 красавіка а 18 гадзіне ў вялікай зале Палаца Браніцкіх.

Прадугледжваецца выступленне спевака сусветнай славы Веслава Охмана (тэнар) і салісткі Вялікага тэатра ў Варшаве Ізабелы Класінскай (сапрана) у суправаджэнні Камернага аркестра з Ломжы пад дырэкцыяй Тадэуша Хахая. У іх выкананні — найбольш вядомыя арыі з опер і аперэт. У перапынку — пачастунак півам!

# „Нашы хлопцы"

Апошнім часам адчуваем асаблівае зацікаўленне „Нівай" з боку прадстаўнікоў усялякіх дзяржаўных устаноў. Выказванні пасла СЛД Сяргея Плевы падчас пасяджэння Сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцей (глядзі: „Ніва" н-р 13) гэта толькі адзін з элементаў дзеяння, якіх канчатковыя мэты пакуль што цяжка вызначыць. На пачатку дзевяностых гадоў лозунг на тэму „Нівы" гучаў: „аплёўвае дзеячаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства" і „разбівае еднасць беларусаў". У 1994 г. чулася час ад часу, што рэдакцыя наша пераўтварылася ў зборышча шавіністычных элементаў, пагражаючых добрасуседскім адносінам паміж братнімі народамі — польскім і беларускім. Апошнім часам чуем пастаянна як бы некалькі закідаў. Папершае: „Ніву" ніхто не чытае, таму не варта на яе выдаткаваць грошы з дзяржаўнага бюджэту, па-другое: рэдакцыя не цікавіцца дасягненнямі „масавай беларускай арганізацыі ў Польшчы", не піша пра іх, па-трэцяе: сваімі публікацыямі разбівае еднасць беларусаў, пачацвёртае: ігнаруе дзяцей і моладзь, папятае: не цікавіцца жыццём вёскі, а „толькі выключна палітыканствам і гісторыяй нейкай". Закіды гэтыя плывуць як бы з розных бакоў, але ў даволі каардынаваны спосаб. Гэтыя „адкрыўчыя" факты аб'яўляюць быццам бы беларусы, але разважаюць пра змест „Нівы" і выказваюць сваю занепакоенасць тым што пішам прадстаўнікі дзяржаўных улад, якія ніколі не чыталі нашага тыднёвіка, а можа нават не ведаюць як ён выглядае.

Варта ў гэтым месцы звярнуць увагу на тое, што калі ўлады планавалі абмежаваць ці спыніць дзейнасць нейкай беларускай установы, заўсёды пачыналі гэта рабіць беларускімі рукамі. У сямідзесятых гадах, калі ліквідаваліся беларускія школы, улады быццам бы рабілі гэта па жаданні беларускіх дзеячаў, лідэраў беларускай арганізацыі. „Інтэрнацыяналісты" не маглі ж без патрабавання „прадстаўнікоў беларускага грамадства" от так сабе ліквідаваць школы, музей у Белавежы ці кааператыў „Бэтэска". Усё гэта рабілася па жаданні „актыву", дзеля цывілізацыйнага прагрэсу, для дабра простага спакойнага, чалавека. Ніхто не пратэставаў, калі беларускія школы пераўтвараліся ў польскія, затое ў „Календарах" з'яўляліся аграмадныя артыкулы пра любоў да роднай мовы, пра ахвярную працу дзеячаў ды настаўнікаў дзеля яе папулярызацыі. Улада дала школы, улада іх забрала, улада найлепш ведае, што патрэбнае свайму люду.

У саракагадовай гісторыі „Нівы" партыя часам склікала экспертаў і дазваляла ім апрацаванне рапартаў наконт зместу тыднёвіка. Найчасцей рабілася гэта тады, калі модным было лавіць усялякіх „нацыяналістаў". А дзе ж іх лягчэй было знайсці, як не ў „Ніве". У 1957 г. група, якой партыя даручыла місію апрацаваць „Ocenę białoruskiego tygodnika „Niwa", пасля парумесячнай працы прадставіла рапарт, у якім пісалася: „Celem tygodnika „Niwa" jest zaznajamiać mieszkającą w Polsce ludność białoruską z polityką partii i władzy Ludowej w jej języku ojczystym, podnosić jej świadomość socjalistyczną i pobudzać do aktywności społeczno-kulturalnej... i co najważniejsze umacnianie przyjaźni i braterskiego spółżycia między narodami Polskim i Białoruskim (друкуецца згодна з арыгіналам).

Tymczasem oprócz kilku publikacji w których wyraziła poparcie dla programu VIII Plenum „Niwa" nie próbowała wyjaśnić poszczególnych części tego programu. Przemilczała również program rolny KC PZPR i NKW ZSL. A przecież wśród Białorusinów były bodajże największe niezrozumienia zarówno istoty przemian jak też i programu VIII Plenum... Wśród Białorusinów zaczęły pojawiać się tendencje separatystyczne.

Niedostateczną uwagę zwraca „Niwa" na problemy sąsiedzkiego współżycia Białorusinów i Polaków, jakkolwiek przykłady mówiące o tym, że Polak i Białorusin są przyjaciółmi i że obce są im waśnie narodowościowe, jest bardzo wiele. Problemów tych nie zauważyli członkowie zespołu redakcyjnego u których pojawiła się tendencja do zasklepiania się w kręgu swoich białoruskich spraw.

Najważniejszym jednak brakiem „Niwy" jest to, że nie zaspakaja ona potrzeb chłopstwa pracującego. Stanowi ono podstawową część ludności białoruskiej w Polsce i powinno być najważniejszym odbiorcą „Niwy". Dotychczas jednak zaspakajających potrzeby chłopstwa publikacji nie zamieszczano. Z pola widzenia zespołu redakcyjnego wypadły takie sprawy jak walka o podniesienie produkcji rolnej, zaznajomienie chłopów z uchwałami partii i rządu. Stąd wynika słaba poczytność „Niwy" na wsi. Trzeba stwierdzić, że redakcja „Niwy" ma poważne trudności w zaspakajaniu potrzeb czytelników. Trudności te potęguje fakt, że połowa nakładu (2500 egz.) rozchodzi się na wsi" — падпісалі: Michał Nosowicz, Bazyl Litwińczuk, B. Nikiciuk, Bazyl Lach, Aleksy Kozioł. Апошні з падпісаных быў сакаратаром ГП БГКТ.

Да сучаснага спіску грахоў „Нівы" не хапае там толькі „аплёўвання" дзеячаў БГКТ, ігнаравання моладзі і сцвярджэння нейкага нардэпа (народнага дэпутата) пра выкінутыя ў гразь грошы, якія дзяржава выдаткавала на друк тыднёвіка.

Спадары, якія ў 1957 г. рыхтавалі ацэнку „Нівы", добра ведалі, што тэмы, якіх адсутнасць ставілі ў закід рэдакцыі, запаўнялі амаль усе старонкі часопіса. Сёння „нашыя хлопцы", якія падчас розных пленумаў маньяцка займаюцца штотыднёвікам, таксама не звяртаюць увагі на тое, што пішам. Але праўда і ніякія беларускія рацыі ніколі іх не цікавілі. Дарэчы, што там школы, музеі, часопісы, калі сябры за мяжой гандлююць дзяржавай.

**Яўген Мірановіч**

## 78-я ўгодкі БНР у Гданьску

Тут у нас у Гданьску вельмі цяжка пазнаць кагосьці, хто не меў сувязі з Беларуссю! Дзед, бабуля, бацька, жонка — чуецца, калі трапляем на сімпатыка нашай нацыянальнай справы. Тык было і ў гэты раз. Упершыню ўгодкі БНР святкавалі мы ў Інстытуце філасофіі і сацыялогіі Гданьскага універсітэта. Бацька дырэктара Інстытута Генрыка Шабалы быў беларусам, адтуль і прыхільнасць да нас.

На святкаванне сабралася каля сарака асоб. Пасля гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", Лена Глагоўская прадставіла традыцыю святкавання ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі ад 1918 года па сённяшні дзень. Мацей Канапацкі прынёс даваенныя запрашэнні на святкаванні БНР у Вільні, якія перахоўваў спярша ягоны бацька, а якія зараз апынуліся ў Мацеевай калекцыі. Прафесар Гданьскага універсітэта, вядомы прыхільнік беларусаў, расказаў пра польска-беларускія адносіны ў XX стагоддзі.

Усе з непакоем гаварылі пра сучасную сітуацыю Беларусі і невядомую яе будучыню. Дыскусія перамянілася ў канферэнцыю над лёсам Беларусі і беларусаў.

Сярод нашых гасцей было многа палякаў, якім неабыякавы лёс Беларусі. Адсутнасць прадстаўнікоў беларускага консульства ў Гданьску чарговы раз паказала адносіны афіцыйных улад Рэспублікі Беларусь да сваёй спадчыны. Непрызнаванне незалежнай беларускай дзяржаўнай думкі не варожыць добрай будучыні незалежнай Беларусі. І шкада, што раптам гістарычная памяць сягае толькі да 27 ліпеня 1990 года. Часам трэба зірнуць і далей, каб зразумець сутнасць вось такога свята, як 25 Сакавіка. Народ без сваёй гістарычнай памяці мае малы шанц на сваю нацыянальную будучыню.

Мы святкавалі ў суботу, 23 сакавіка, не ведаючы яшчэ пра нядзельныя падзеі ў Менску. А 25 сакавіка на сяброўскай сустрэчы ў Мацея Канапацкага ў нашым беларускім асяроддзі ўсе перажывалі нядзельныя падзеі ў Менску. У народзе нешта зварухнулася, калі трыццаць тысяч выйшла на вуліцу. Гэта антыміліцэйная прыкмета. Але адносіны паркадавых службаў паказалі сілу ўлады.

З нагоды 25 Сакавіка журналістка Гданьскага Радыё Анна Сабоцкая зрабіла перадачу, а штотыднёвік „Trójmiasto" змясціў артыкул пра Беларусь.

**Лена Глагоўская**

# Прэзідэнцкі гвалт

*Запіскі ўдзельніка святкавання Дня Волі ў Менску 24 сакавіка 1996 г.*

Паўгадзіны таму мяне прывезлі з 10-й клінічнай бальніцы Менска і, хоць і позна, але я хачу паведаміць, што бачыў. І хоць розная інфармацыя ўжо спажыта народам ды праверана, але маіх асабістых назіранняў нішто не заменіць.

У тую нядзелю інфармацыя аб святкаванні Дня Волі ў Беларусі гучала і па радыё, і на вуснах: нешта забаранілі, нешта дазволілі. Ва ўсялякім разе сход ля Опернага тэатра адбудзецца. І паколькі на Беларусі болей няма свята, дзе можна поўнымі грудзьмі дыхнуць беларускага паветра, дык а 12-й гадзіне я быў на месцы ўсёй сям'ёй. Мая 4-гадовая дачка Альдона ўпершыню бачыла столькі сцягоў, столькі Пагоняў, апяяных славутым Багдановічам і зганьбаваных чужацкім рэжымам. Ёй не даводзілася тут тлумачыць, што песня „Бел-чырвонабелы сцяг, срэбная Пагоня" — самы любімы твор Сокалава-Воюша — састарэла. І яна з задавальненнем выгуквала ў адказ на „Жыве Беларусь" сваё шчырае дзіцячае тоненькае „Жыве!!!".

Дзякаваць Богу, дзіцячы расклад харчавання не даў ёй дачакацца канца свята, калі ейнаму дзядзьку, журналісту Уладзіміру Панаду міліцэйскім кіем расквасілі лоб, а ейнага бацьку аддубасілі, падвесіўшы за наручнікі, ды потым „милостиво" здалі „хуткай дапамозе".

Пра няўдалы штурм тэлецэнтра ўжо шмат гаварылі і па Расейскай тэлепраграме, і па Reuter. Але я раскажу пра асабістае.

Маё дзіцё ніколі не будзе спяваць песні „Моя міліцыя меня бережот", таму што мне ёсць што расказаць пра нашу міліцыю. Такога садызму яна не ўбачыць нават ні ў якіх антыфашысцкіх фільмах.

Калі ўжо рассеяныя купкі змагароў за свабоду слова сунуліся з мітынгу па Скарынаўскім праспекце, ля галоўпаштамта іх сустрэў міліцэйскі кардон. Некаторыя папросту завярнулі направа або налева. Некаторыя не паспелі. У шаломах з дубінкамі і шчытамі менты пачалі скалочваць ў цэнтры сталіцы своеасаблівую Курскую дугу. Раптам я ўбачыў, як пад іхнімі нагамі апынулася нейкая бабулька, потым маладуха. Яны падалі занадта нечакана, я заўважыў, як узброеныя з нашых падаткаў маладзёны ў форме Беларускага АМАП пырскалі газамі з аэразоляў у сваіх мацярок. Выгляд адной з іх — бездапаможны і разгублены — занадта крануў мяне, і я нахіліўся ёй дапамагчы. Адразу адчуў удар па карку. Потым удары пасыпаліся гарохам (сабак нагналі з усяе рэспублікі). Мне з наўмыснай жорсткасцю заламалі рукі і закулі ў наручнікі. Зацягнуўшы ў машыну, павалілі на падлогу і пачалі асцервянела лупіць дубінкамі і кулакамі (сёй-той не патрабаваў нават схіліцца дзеля гэтага).

Мяне лупілі ўвесь час, пакуль машына блукала ў пошуках вольнай лянтоўкі. Гэтыя задаволеныя садызмам твары я запомню на ўсё жыццё. Гэта людзі на сваім месцы: сабакі ў сабачай дзяржаве. З аднолькавым задавальненнем яны будуць збіваць кішэнага злодзея, забойцу, дробнага хуліна і патрыёта, які любіць Беларусь болей за таго, хто ім даў працу. А той ужо паклапоціцца, каб ніякія законы аб надужыцці сродкаў барацьбы іх не чапалі. Ды, зрэшты, патрыёт тут у горшым стане, бо мент ніколі не падзеліць з ім любоў да радзімы, а з злодзеем... Вось шанц быў для напёрстачнікаў 24 сакавіка, якім далі волю дурыць народ на вакзале і ў метро нават без выплаты працэнта ментам.

Раней мяне ніколі гэтак не збівалі, хоць увечары ціхім завулкам часам натыкаўся на розны зброд. Не чуўшы болю, я раней баяўся яго. Усё аказалася працей: ты глядзіш ім у твар і толькі чуеш смурод ад іх. Нават ніякага страху, што ты зараз сканаеш. Ды, зрэшты, у гэтай краіне жыццё даўно скончылася. Беларусь — не для беларусаў. Такі лозунг лідэраў беларускай дзяржавы, беларускага мастацтва.

Час ад часу я страчваў прытомнасць, а прачынаючыся ад болю пасечанай дубінкамі галавы, усё ж усведамляў, што цяпер яго трываць можна. Нейкі мент усё паўтараў: „Колькі табе заплацілі?" і ў ягоных словах я чуў водгалас імперскіх легенд, што чачэнцы змагаюцца за сваю радзіму таксама за долары.

У Цэнтральным РАУС г. Менска, куды мяне прывезлі, было яшчэ з пятак затрыманых. Іх допыт я амаль не чуў. Потым ачуняў ад нязвыкла пяшчотнага дотыку — аказваецца, мяне аглядаў доктар. Потым шлях на „РАФіку" да 10-й менскай клінічнай бальніцы, дзе мне апрацавалі ёдам і нейкімі прыладамі пухліны ды крывацёкі на галаве, пазваночніку, левым плячы. Потым зрабілі ўкол супраць запалення крыві ды неўзабаве адвезлі дадому.

Першыя словы маці я чуў ужо выразна:

— Хто гэта.

Зрэшты, у люстэрку я і сам сябе не пазнаў, таму дачушцы вырашыў не паказвацца: хай успрымае Дзень Волі як свята, а не прэзідэнцкі гвалт.

**Вітаўт Мартыненка**

## НАШЫ КАРАНІ

**LXXXVIII. У адчайным парыве**

Наколькі складаным і цяжкім было жыццё праваслаўнай грамадскасці на Падляшшы ў XVII-XVIII стагоддзях пад панаваннем каталікоў і уніятаў даволі яскрава сведчыць лёс Свята-Мікалаеўскага брацтва і Свята-Мікалаеўскай царквы ў Драгічыне.

Драгічынскія праваслаўныя мяшчане пры падтрымцы навакольнай праваслаўнай шляхты дзеля абароны і ўмацавання свае веры заснавалі брацтва. Яно хутка разрасталася і стала настолькі вялікае і гуртавала надзвычай ахвярных і дзелавых людзей, што ў цяжкім для праваслаўных 1626 годзе пачало пабудову свае царквы, а ў наступным годзе дзякуючы сваёй настойлівасці дабілася ў караля Зыгмунта III Вазы прывілеі на ўтварэнне праваслаўнай парафіі св. Мікалая. Гэта акрыліла брацтва. На свой храм і парафію людзі не скупіліся: ахвяроўвалі значныя кавалкі зямлі, пляцы ў горадзе, дамы, крамы, сады, немалыя грашовыя складчыны. І Свята-Мікалаеўская царква расла ў вачах, затым была багата абсталявана, а Свята-Мікалаеўскае брацтва стала моцнай грамадскай арганізацыяй.

Усё гэта страшэнна не падабалася мясцовай каталіцкай і уніяцкай іерархіі і розным фанатыкам. Яны сталі біць трывогу па ўсіх тагачасных дзяржаўных установах і ў караля, што, маўляў, у Драгічыне схізматыкі пагражаюць знішчэннем каталіцызм. Паўсюдна нахабна дамагаліся знясення Свята-Мікалаеўскай парафіі і перадачы уніятам новага храма і ўсяго, чым валодала Свята-Мікалаеўская парафія. Кароль Уладзіслаў IV (сын памерлага ў той час Зыгмунта III), праўда, стаў у абароне праваслаўных, але мясцовыя завадатары слухаць яго слухалі, але рабілі што хацелі.

Драгічынскі стараста, фанатычны католік Леснявольскі самавольна захапіў Свята-Мікалаеўскую царкву, а уніяцкі дзкан падаў у суд больш за дзесяць чалавек самых ахвярных і актыўных братчыкаў-мяшчан якраз за тое, што яны заснавалі брацтва, застаючца вернымі праваслаўю і да таго пабудавалі царкву. Хітры уніят не адважыўся падаваць у суд праваслаўных баяраў (г.зн. шляхту), бо ведаў, што дабра яму ад гэтага не будзе і справу прайграе. Да таго праваслаўная шляхта на першым сейме паставіць перад каралём гэтую яўную неталерантнасць. І сапраўды, праваслаўныя баяры Драгічынскай зямлі актыўна сталі ў абароне Свята-Мікалаеўскай царквы і брацтва, прыгразілі каталіцкім і уніяцкім фанатыкам. Перапужаны Леснявольскі хуценька вярнуў ключы ад Свята-Мікалаеўскага храма, а дзкан-уніят адклікаў свае абвінавачанні. Аднак зрабілі яны ўсё гэта толькі для адводу вачэй. Зараз жа на царкву і брацтва ўзяліся нацкоўваць розных зладзеяў і хуліганаў. І ў багацейшую ў горадзе царкву некалькі разоў праломваліся грабежнікі і абкрадалі яе да таго, што ўрэшце засталіся толькі голыя сцены. Праваслаўныя скардзіліся каралю, але безвынікова.

Ад паўстання Хмяльніцкага праваслаўныя Падляшша спадзяваліся паратунку ад гэтых несправядлівасцей і здзекаў, таму дэманстравалі сваю прыхільнасць паўстанцам. Але паўстанне суцішылася і пачалася крывавая расправа католікаў і уніятаў над праваслаўнымі драгічынцамі, абвінавачанымі ў тым, што быццам бы былі агентамі Хмяльніцкага.

Атмасфера адносін паміж каталікамі і уніятамі з аднаго боку і праваслаўнымі з другога напалілася да крытычнага стану. І наступіў выбух. У 1656 г. у адным з драгічынскіх касцёлаў праходзіў мясцовы шляхецкі сеймік. На ім уніяты і каталікі заатакавалі праваслаўных, абвінавачваючы іх у здрадзе дзяржавы і непашанаванні пануючай рэлігіі. Праваслаўная шляхта абаранялася, як магла. Але ўрэшце ўзбураная нахабствам і несправядлівымі абвінавачваннямі выхапіла шаблі і баявыя нажы і на вастрыях разнесла і езуітаў, і каталіцкую з уніяцкай шляхту і ўсё ў касцёле. Гэта быў адчайны парыў людзей, якім зацісканалі на шыі пятлю.

Вядома, пры пазнейшым разглядзе справы ва ўсім былі абвінавачаны праваслаўныя, і адразу пачалося паўсюднае іх праследаванне. Каралеўскія чыноўнікі аддалі Свята-Мікалаеўскую царкву уніятам. Аднак парафіяне доўга не дапускалі да таго, каб у ёй служыла уніяцкае духавенства, і ў гэтым храме па-ранейшаму маліліся па-праваслаўнаму. Толькі праз 20 гадоў, у 1678 г., уніяцкі ўладыка ўпершыню адслужыў у ёй уніяцкае набажэнства.

Свята-Мікалаеўскае брацтва яшчэ некаторы час змагалася за вяртанне свайго храма, але калі кароль Ян Сабескі ў 1681 г. забараніў праваслаўным дамагацца сваіх храмаў, капліцаў, парафіяльнай зямлі і наогул праваслаўнай маёмасці заграбленай каталікамі і уніятамі, свята-мікалаеўскія братчыкі перайшлі ў праваслаўныя Свята-Троіцкую і Свята-Праабражэнскую парафіі і там працягвалі сваю дзейнасць.

**Мікола Гайдук**

## Найлепшыя на сцэне

3 красавіка гэтага года ў Доме культуры ў Гайнаўцы адбыліся цэнтральныя элімінацыі конкурсу беларускіх школьных драмгурткоў. Вучні пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў паставілі класічныя сцэнічныя творы, адаптацыі казак, паэтычна-музычныя мантажы ды лялечны тэатр. Выступілі дзесяць мастацкіх калектываў, а ў іх больш за 80 вучняў з дзевяці пачатковых школ. Для параўнання: у мінулым годзе ў такога роду конкурсе ўдзельнічалі ўсяго чатыры драмгурткі.

Журы ў складзе: Тамара Русачык, Яніна Плотовіч і Вольга Андраюк спецыяльную ўзнагароду прызнала драмгуртку з Пачатковай школы ў Дубінах (Гайнаўская гміна). Да конкурсу падрыхтавала яго настаўніца Надзея Гаган.

Два першыя раўнапраўныя месцы занялі драмгурткі з бельскай „тройкі" (з вучнямі-самадзейнікамі працавала настаўніца Анна Бжазоўская) і з ПШ у Саках, што ў Кляшчэлеўскай гміне (вучняў падрыхтавала настаўніца Яніна Варона). Два другія месцы заваявалі драмгурткі з ПШ у Нарве (настаўніца Ніна Абрамюк) і з гайнаўскай „тройкі" (настаўніца Валянціна Дзмітрук). Два трэція месцы падзялілі калектывы з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім (быў гэта калектыў настаўніцы А. Бжазоўскай) і з ПШ у Старым Корніне, што ў Дубіцкай гміне (настаўнік Васіль Сегень).

Агляд школьных драматычных калектываў арганізавалі Галоўнае праўленне БГКТ супольна з беластоцкай Куратoрыяй асветы. **(яц)**

# У мяне быў план і я яго выконваў

*(Заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары пад загалоўкам „Беларусы і японцы".)*

**Са шматгадовым дзеячам БГКТ з Гайнаўкі Мікалаем Сулімам гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.**

*— Як на Гайнаўшчыне было пасля вайны?*

— Калі вярнуўся з фронту, стаў на працу ў ГС у Орлю, а пасля пайшоў на пошту; на пошце прарабіў я роўных сорак гадоў. Спачатку быў пісьманосцам, потым павысілі мяне на начальніка ў Орлі, а ў пяцьдзесят другім перанеслі ў Гайнаўку; тут арганізаваў *повят*, у якім стаў дырэктарам.

*— А як тады выглядалі тут беларускія справы?*

— Да беларускага таварыства я належу ад пачатку да сёння. Мае ўсе дзеці паканчалі беларускі ліцэй, а двое ўнучкі цяпер вучацца далей у Мінску. Я быў старшынёю Бацькоўскага камітэта пры ліцэі. Ад нас менавіта — ад Майсені, Грыца і мяне — выйшла ініцыятыва пабудовы ліцэя. Была ўжо створана магчымасць будовы, ужо *Цэнтральны звёнзэк спулдзельчосці* ў Варшаве меў фінансаваць і г.д., але мясцовыя ўлады адносіліся да гэтага вельмі непрыхільна. Хацелі ад нас забраць пляц, каб паставіць там будынак *Лігі обороны краю*, гэты пляц, на якім цяпер стаіць ліцэй. Калі б нам той пляц забралі, прапала б і наша будова. Я супрацьставіўся, Майсеня таксама. Павятовы камітэт, тады яго сакратаром быў Недзьведзь, яны мяне бралі на *эгзэкутыву*, хацелі разлічыць, з дырэктара зняць, зажадалі каб я выпісаўся з беларускага таварыства і г.д. А я не! Не ўступіў для кураторыі, бо і з кураторыі быў віцэ-куратар Роман. І так пляц астаўся нам.

*— А чаму гэта акурат ад вас залежала?*

— Гэта быў школьны пляц, і каб яго забраць, патрэбна была згода і Бацькоўскага камітэта. Дырэктарам была Тропак, а яна на дзве старонкі плавала. А я цвёрда стаяў, што будзем будаваць: калі ён будзе, але будзе! Вось і дайшло да таго. Я тады школе многа памагаў: і гараж паставіў, і тэлевізар купіў, ездзіў у Варшаву сцяг заказваць; гэты сцяг і па сённяшні дзень у школе.

*— А як завязвалася таварыства? І чаму паўстала яно толькі ў пяцідзесятыя гады?*

— Не было спрыяючых варункаў. На паперы стаяла, што „мы вас поперамы, але не хцэмы відзець". І так яно існавала. І як арганізаваліся школы, то людзі дзяліліся напалам: адны хацелі, каб вучыць дзяцей па-беларуску, другія не хацелі.

*— Але калісь на вёсках то ўсе вучыліся па-беларуску?*

— Не ў кожнай вёсцы, ой не ў кожнай.

*— Скажыце мне яшчэ пра само таварыства; як яно тут арганізавалася?*

— Многа было адданых беларусаў: Харкевіч з Лешукоў, што настаўнікам быў, нядаўна памёр, і Алёша, і Майсеня, і я, і Самоцюк, і іншыя. І мы ўсе арганізавалі тое таварыства. А ў Беластоку былі Юзвюк, Баршчэўскі, Швед і другія. Усіх не спамятаеш.

*— Гэта вы так самі склікаліся, ці што „зверху" прыйшло?*

— Далі магчымасць стварыць статут, ну і так пачалі арганізавацца.

*— А партыя адыграла тут нейкую ролю?*

— Ну, дапамога партыі была, падтрымоўвала нас.

*— А чаму так сталася, што партыя, пакуль быў Сталін, не стварала варункаў, а пасля адмянілася? Якую яна ў гэтым бачыла выгаду?*

— Не ўглыбляўся я ў гэта пытанне, меў я свае работы поўна. Больш дзесяці гадоў вучыўся — вечаровы ліцэй, *студыі* ў Варшаве на эканоміцы сувязі, адміністрацыйны курс; я мала свету бачыў.

*— А як адбываліся з'езды таварыства? Як выбіраліся ўлады? Як ствараліся праграмы? Ці былі ўжо гатовы кандыдатуры і тэксты? Ці ўносіліся нейкія прапановы і ці яны браліся пад увагу?*

— А як жа, бралі пад увагу. Старшыню з'езд выбіраў з ліку некалькіх кандыдатаў. Усё адбывалася згодна з дэмакратычнымі прынцыпамі і людзей выбіралі адпаведных, адукаваных.

*— Вы, як былы павятовы дырэктар пошты, займаліся таксама распаўсюджваннем „Нівы".*

**— У мяне быў план і я яго выконваў. Даставаў я зверху агульны план прэсы і мусіў прытрымоўвацца паказчыка на 100 жыхароў, які для павету не мог быць меншы чым 25. А ў мяне выходзіла 27 а то і 30. А план на „Ніву" мы ў тым часе перавыконвалі, г.зн. распаўсюджвалі больш, чым ад нас вымагалася.**

*— Падчыненым сабе поштам вы таксама вызначалі планы?*

— Так.

*— Так, каб яны маглі іх выканаць...*

— Ну, вядома. У Заблудаў, які таксама нам падлягаў, таксама як Міхалова і Гарадок, давалі менш, бо там больш польскага насельніцтва.

*— А куды ў вас найбольш „Нівы" ішло?*

— У нас, на Гайнаўшчыне можна было даваць на кожную паштовую ўстанову без абмежавання.

*— Ці выбіраліся вы радным, напрыклад, у павятовую раду?*

— Радным я не быў. Быў затое пры камітэце — гарадскім, павятовым; партыя ставіла мне задачы і адносна беларускага таварыства, як члену яго актыву. Быў я таксама 16 гадоў *лаўнікам*, у судзе.

*— А якія задачы ставіліся вам партыяй адносна беларускага таварыства?*

— Трэба было арганізаваць *імпрэзы*, выезды ў *тэрэн* з лекцыямі. Ну і ў ліцэі, ці нейкі рамонт, ці што. Я меў вялікія магчымасці, меў сваіх рамеснікаў, што і печ пастаўляць, і гадзіннік наладзяць, і пабудуюць. Ліцэй атрымаў з ПЗГСу самаход для палітэхнізацыі, каб моладзь вучылася вадзіць. То яго трэба было дзесь трымаць. Ну то мае працаўнікі гараж паставілі. Заўсёды нешта карыснае для школы рабіў.

*— А каб каэфіцыент партыйнасці павышаць? Гэтым таксама займаліся?*

— Гэта была справа камітэта.

*— Але калі папракалі вас, што ён недастатковы, што вы тады рабілі?*

— Я глядзеў, каторы хлопцы добры, праводзіў размову і ішло. І ў мяне партыйнасць добрая была. Я рэкамендаваў і адпавядаў пасля за іх.

*— А не ставіліся да вас крыва, што вы іх туды цягнеце?*

— Не, свае ўсе людзі...

*— Свае лёгка ішлі?*

— Без ніякага нацiску.

*— А цяпер, на пенсіі, займаецеся беларускімі справамі?*

— Мне ўжо 74 гады, але стараюся. Займаюся справамі Музея, аплачваю складчыны, хаджу на сходы, я цэлы час у кантакце з Майсенем.

*— Дзякую за цікавую размову і жадаю добрага здароўя.*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Прырода ў наваколлі Дубіцкай школы

Пачатковая школа ў Дубічах-Царкоўных памяшчаецца ў двух будынках. Знаходзіцца яна ў канцы вёскі, побач царквы. Такое суседства не выпадковае. Старыя людзі яшчэ памятаюць, што драўляны будынак пабудавалі „за цара” і была гэта прыцаркоўная школа. У час II сусветнай вайны многія сем'і — пагарэльцы — тут знайшлі сабе сховішча.

Дубіцкая школа знаходзіцца ў прыгожым месцы недалёка лесу, які ў народзе называюць „Буорком”. Ля царквы і школы растуць старыя дрэвы: ліпы, вязы, сосны, клёны і вербы. Вучні маюць безупынны кантакт з прыродай. Настаўнікі часта арганізуюць экскурсіі па наваколлі, напрыклад над рэчкі Арлянку або Орлю. Заняткі ў рамках школьнай „святліцы” ці фізкультуры часта праводзяцца ў лесе, дзе ёсць спартыўная пляцоўка. Там вельмі добра праводзіць заняткі ў час моцнага ветру. Многа тэм па геаграфіі, біялогіі рэалізуецца на прыродзе — над сажалкай, рэчкай ці на лузе. Вучні назіраюць і апісваюць краявід, займаюцца феналагічнымі і краязнаўчымі доследамі.

Многа цікавых здарэнняў нясе самое жыццё. Дзеці не раз мелі нагоду сустрэцца з вожыкам, вавёркай ці жабай на




*Славамір Кулік са сваімі васьмікласнікамі.*

школьным панадворку. Самымі частымі гасцямі бываюць вавёркі. Можна іх пабачыць восенню, як скачуць па арэшынах, клёнах або бегаюць на школьным панадворку. Некалькі гадоў назад адной такой вавёрцы непашчасцілася. У час свавольнага гойсання па дрэвах, яна пакаўзнулася і ўпала ў калодзеж. Дзеці вельмі моцна перажылі яе смерць, наладзілі нават ёй сціплыя хаўтуры. Гэта ў наваколлі школы я першы раз у жыцці сустрэў янотападобнага сабаку. Было гэта так: вярталіся мы з лесу пасля ўрока фізкультуры па дарозе, што спалучае Тафілаўцы з Дубічамі-Царкоўнымі. Дзеці пацікавіліся звярком, які стаяў побач ляснай дарогі. Быў гэта янотападобны сабака. Стаяў ён і прыглядаўся нам з дзесяціметровай адлегласці. Дзеці хацелі падысці бліжэй, але я не дазволіў, бо баяўся, што звер можа быць шалёны. Яшчэ некалькі хвілін мы пазіралі на сябе, але калі мы рушылі, янотападобны сабака пабег у лес.

Восенню 1995 года дзеці згледзелі сыча, які сядзеў на крыжы ля царквы. Хлопцы са старэйшых класаў пачалі з ім нават забаўляцца, прынеслі яго ў клас. Трэба было сказаць ім пра благі паступак. Пазней мы даведаліся, што знайшоўся і другі сыч. Дзеці вельмі цікавіліся гэтымі птушкамі. Таксама восенню на рацэ Орля, непадалёк моста, паказаліся бабры. Дзеці вельмі цікавіліся гэтымі звярамі, доўга аглядалі абгрызеныя імі дрэвы. На жаль, саміх баброў не бачылі, бо ўдзень яны спяць і толькі ноччу пачынаюць шукаць яды. Можа летам, калі дні стануць даўжэйшыя, самым настойлівым назіральнікам пашанцуе падглядзець іх. У канцы студзеня, каля школы з'явіўся адзінокі лебедзь. Быў ён хіба акасцянелы, бо нават не баяўся людзей. Дзеці кармілі яго хлебам і вельмі хваляваліся за яго жыццё. Прапанавалі нават пазваніць у белавежскі парк. Лебедзем, на шчасце, занялася жыхарка Дубіч. Яна паабяцала перазімаваць яго разам з гусьмі.



*Васьмікласніца Кася Кендысь на „ссечаным” баграмі пні.*

Каб птушкі не забывалі нашу школу, дзеці кожны год будуюць ім кармушкі. Здараюцца таксама і менш прыемныя сустрэчы. Восенню нашу школу наведваюць палявыя мышы, якія ўцякаюць з апусцелых палёў. Даволі частымі гасцямі ёсць таксама бяздомныя каты ды сабакі. Здараецца, што дзеці бяруць іх у хату, аднак з часткай няма што зрабіць.

Саромцеся, людзі, не пакідайце сваіх чатырохногіх сяброў. Хацелася б, каб навокал школы як найдаўжэй засталася чыстая вада і зялёная трава.

**Славамір Кулік**

# Навошта ў хаце парог?

„Ад парога хату не замятаюць” — вучыць народная прыказка.

Парог як і печ (пра што мы ўжо пісалі) — месца ў хаце незвычайнае. З ім звязана многа звычаяў і абрадаў. Парог, верылі нашыя продкі, быў мяжой, што аддзяляла чалавечае жытло ад неасвоенай, варожай прасторы.

Парог лічыўся месцам, дзе жывуць душы продкаў, якія могуць дапамагаць або перашкаджаць дамачадцам. Ад іх залежыла здароўе, заможнасць, міжлюдскія адносіны. З гэтым вераваннем звязаны розныя звычаі, якія са старажытнасці дайшлі да нас.

Найбольш вядомы з іх — рытуальнае сядзенне перад падарожжам. Звычай „прысесці на дарогу” добра вядомы і сёння. Многія толькі не ведаюць сэнсу гэтай практыкі. Ідзе ў ёй пра тое, што людзі звяртаюцца ў думках да душ продкаў з просьбай аб дапамозе ў дарозе. У час выконвання гэтага звычаю абавязвае маўчанне, бо яно абазначае сімвалічнае далучэнне да свету продкаў-нябожчыкаў. У гэты кароткі момант наладжваецца духоўная сувязь жывых з памерлымі — добрымі абаронцамі і дарадчыкамі.

Вядомы забабон, што нельга вітацца праз парог, бо гэта можа выклікаць спрэчкі, недаразуменні ці нават варожасць. Тут таксама на ўяўленне ўплывае вера пра парог як месца знаходжання душ продкаў. Зразумела, што ў такім выпадку чалавек, які знаходзіцца на другім баку парога, успрымаецца душамі продкаў як магчымы непрыяцель, вораг.

**А.А.**

*(працяг будзе)*

# Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка”**

Мяне завуць Мілена Роля. Я вучаніца VI „а” класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Я хачу расказаць табе, „Зорка”, казку. У гэтым я, можна сказаць, спецыялістка. А гэта таму, што ў мяне ёсць малодшая сястра. Вельмі часта я чытаю і расказваю ёй казкі. Да гэтай пары я чытала ёй па-польску. Цяпер чытаю на беларускай мове. Няхай Караліна аслухоўваецца з роднай мовай. У верасні яна пачне навуку, а тады напэўна будзе ёй лягчэй. Часта мы чытаем казкі, якія Ты, „Зорка”, друкуеш. Вельмі падабалася нам казка „Праўда і крыўда” пра добрага і злога братоў. Аднак самая цікавая казка, якую я чытала ўжо некалькі разоў, гэта „Залатая яблынька”.

Гэтую і іншыя цудоўныя казкі знайшла я ў кніжцы „Беларускія народныя казкі” ў апрацоўцы Алеся Якімовіча. Часам я таксама сама прыдумоўваю казкі. Адну з іх я хачу расказаць Табе, „Зорка”.

**Казка пра малога сабачку**

Жылі-былі дзед і баба. Гадавалі яны трох сабак. Адзін сабака, якога гаспадары называлі „Грозным”, цэлыя дні брахаў. То на пеўня, то на гусей ці вераб'я. Усё чуваць было яго галасны брэх. Другога называлі „Мандраляй” і лічылі яго прыкладным сабакам. Ведаў ён, каго варта ўпусціць на панадворак. Толькі незнаёмых вітаў ён брэхам і паказваў зубы. Да трэцяга сабакі „Ціхенькага” гаспадары ставіліся несур'ёзна, яго кахалі як „Грознага” і „Мандралю”, але не разлічвалі на яго ў няшчасці. „Ціхенькі” быў маленькі і лічыў сябе горшым за сваіх сяброў.

Калі дзед і баба паехалі на рынак, на падворак прыйшлі два мужчыны. Велізарнымі кіямі хутка загналі і замкнулі яны ў будзе „Грознага” і „Мандралю”. „Ціхага” яны пакінулі, думаючы, што ён не можа нічога кепскага ім зрабіць. Калі злачынцы ўвайшлі ў хату, „Ціхенькі” пабег на вуліцу, бегаў, брахаў. Усе звярнулі ўвагу, што нешта дзіўнае робіцца з гэтым спакойным сабакам. Дзіўнейшае было яшчэ тое, што не было чуваць бурчання „Грознага”, якога ведала ўжо ўсё наваколле. Суседзі пайшлі ўбачыць, што сталася і злавілі зладзеяў.

„Ціхенькі” пераканаўся, што сваёй нясмеласці і выгляду не трэба саромецца.

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне Мілена! Не здзіўляе мяне, што твае казкі падабаюцца сястрычцы. Да таго ты не забываеш роднай мовы. Думаю, што сястрычка будзе за гэта табе ўдзячна. Твае паводзіны, лічу, вельмі спадабаюцца і іншым чытачам „Зоркі” і яны возьмуць з цябе прыклад. Мне вельмі прыемна, што пішуць у „Зорку” такія дзяўчаты, як ты, Мілена! Маю надзею, што станеш нашай карэспандэнткай.

**„Зорка”**

## Вершы Віктара Шведа

### Хатняя зязюля

Цікае гадзіннік
На сцяне кватэры,
Цікае няспынна,
У яго мы верым.

Цікае, каб чулі,
Час нам адмярае,
І куе зязюля
Быццам бы жывая.

### Якая ваша пані?

Пытае маці сыночка Ваню,
Калі вярнуўся ён са школы:
— Якая ваша новая пані,
Ці палюбіла яе моладзь?

— Страшэнна любяць яе дзеці,
Вучняў у ёй уся надзея.
У гэтым годзе ўжо раз трэці
Грыпам нам панечка хварэе.

### Пад сілу таце

Маму інфармуе Коля,
Увайшоўшы ў хаты дзверы:
— Сёння быў у нашай школе
З матэматыкі крытэрый.

— А ці меў ты тут удачу,
Быў ласкавы матэматык?
— Мама, гэтыя задачы
Вырашыў бы нават тата.

## Беларускія яўрэі

Першыя яўрэі паявіліся ў Беларусі ў XI стагоддзі. Вялікая хваля яўрэяў з'явілася на беларускіх землях у XIV стагоддзі. У Заходняй Еўропе пачалася тады праследаванні людзей гэтай нацыянальнасці. Рэлігійны фанатызм у Іспаніі, Нямеччыне, Францыі накіраваўся супраць людзей іншай культуры і рэлігіі. Яўрэям не было там месца. Шукалі яны краіны ў Еўропе, якой жыхарам не перашкаджала б іх традыцыя і рэлігійная іншасць. Такім чынам у Вялікім княстве Літоўскім, а асабліва на беларускай тэрыторыі, пасялілася пару дзесяткаў тысяч яўрэяў.

Рэлігійныя войны ў Заходняй Еўропе ў XVI стагоддзі прымусілі яўрэяў нанава ўцякаць на Усход. Большасць з іх трапіла ў Беларусь. У канцы XIX стагоддзя пагромы яўрэяў у Расіі прычыніліся да перасялення іх вялікай колькасці на беларускія землі. На пачатку XX стагоддзя складалі яны 15 працэнтаў насельніцтва Беларусі. У некаторых мястэчках 80 працэнтаў жыхароў было яўрэямі. Займаліся яны рамёствамі, гандлем, дробным прадпрымальніцтвам. Большасць беларускіх яўрэяў — каля 300 тысяч — загінула падчас другой сусветнай вайны ў выніку гітлераўскага генацыду.

У 1989 г. у Беларусі жыло 112 тысяч яўрэяў, што склала 1,2 працэнта насельніцтва краіны. Беларускія яўрэі далі свету шмат выдатных палітыкаў, пісьменнікаў, вучоных, мастакоў. Сярод іх былі: мастак Марк Шагал, пісьменнік Змітрок Бядуля, скульптар Заір Азгур, філосаф Саламон Нейман, прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман.

# Крыжаванка № 16

Калі адгадаеце правільна ўсе словы і запішаце іх у клеткі, атрымаеце лозунг. Дашліце яго ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*(Апрацавала Кася Леанюк)*

- карась або лінь
- кароль звяроў
- ..., сава ды сонца ў казцы Крапівы
- не агонь, а пячэцца
- Красько або Мазурук
- сухая трава
- з яго хлеб
- самы высокі жаночы пеўчы голас
- „бочка" з макам
- 60 секунд
- не адна ў школе
- Юрый Гагарын
- паўзе ўзад
- „Інка" або „Чыба"

**Адказ на крыжаванку № 11:** пясок, баран, жах, рагач, сябра, саха, бор, каша, ноч.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі:

1. **Івона Леанюк** з Бельска-Падляшскага,
2. **Пётр Дарпэньскі** з Нарвы,
3. **Эва Зубрыцкая** з Нарвы,
4. **Іаанна Сяткоўская** з Нарвы,
5. **Давід Сліўка** з Бельска-Падляшскага,
6. **Марта Тапалеўская** з Кленік,
7. **Данута Саевіч** з Рэпіск,
8. **Патрыцыя Кос** з Ласінкі.

**Віншуем!**

*Ганна Кандрацюк,*
*Аляксандр Максімюк*

# Юр'еўскі карагод

Дзеючыя асобы:
— гаспадыня (Ніна);
— гаспадар (Лявон);
— сяляне: гаспадары і гаспадыні;
— моладзь, дзеці;
— вядзьмарка;

*Агульная заўвага: пастаноўку найлепш адыграць на паветры, спалучаючы яе з экскурсіяй; першая яе частка — выхад у поле — можа быць адыграны ў школе.*

ГАСПАДАР:
Ну й строгая сёлета зіма была. Цікава, як там наша жыта ўзышло, ці год ураджайны будзе?

ГАСПАДЫНЯ:
Нечага так напуста балбатаць. Як і ўсе людкове ў поле сходзім, паглядзім! О, чуеш?..

*Каментарый: тут раздаюцца гукі песні „Вяснянка". Пасля другой страфы ўключаюцца і гаспадары.*

*ВЯСНЯНКА*

*Памажы маці нам вясну гукаці,*
*Божа дай, Божа дай, Божа памажы!*

*Вырадзі, Божа, жыты густыя,*
*Божа дай, Божа дай, Божа памажы!*

*Жыты густыя, каласістыя,*
*Божа дай, Божа дай, Божа памажы!*

*Хоць адзін колас, дык на ўвесь голад,*
*Божа дай, Божа дай, Божа памажы!*

*Хоць адно зярно, ды на ўсё гумно,*
*Божа дай, Божа дай, Божа памажы!*

*Карагод (кола) затрымліваецца ў полі, уводдалі чуваць вясёлы спеў птушак, многа зелля і кветак.*

1-я ДЗЯЎЧЫНКА:
Хлопцы, а вы ўчора каней на луг вадзілі?

УСЕ ХЛОПЦЫ (*згодным хорам*):
Вадзілі-вадзілі, ад ваўкоў заваражылі.

САМЫ СТАРЫ Ў ГРАМАДЗЕ (*да дзяцей*):
Кажуць, што калі вечарам да Юр'я вывесці коней — ваўкам на цэлы год завяжуцца зубы і яны нават не глянуць на коніка. Праз увесь год не глянуць.

УСЕ ДЗЕЦІ:
Дзядзька, а гульню ў ваўка і авечак ведаеце?

ТОЙ ЖА СТАРЫ:
Не толькі ведаю, але і навучу вас. Хадзіце ўсе да мяне, дзеткі. Выбярыце са свайго ліку ваўка, пастушка, а рэшта — хай авечкамі будзе.

*Каментарый: воўк хаваецца за кустом, а авечкі становяцца ў статак і мэкаюць.*

ПАСТУШОК:
Я пасу авечкі
Каля самай рэчкі.
Воўк за гарою,
Шэры за крутою.
Воўка не баюся,
Кіем баранюся.
Пайду і пасплю хвілінку.

*Каментарый: пастушок ідзе спаць, а тым часам убягае воўк і крадзе адну авечку. Пастух чуе мэканне і падрываецца са сну.*

ПАСТУШОК:
Усе авечкі?

АВЕЧКІ:
Усеее, мэээ!

ПАСТУШОК:
Я пасу авечкі
Каля самай рэчкі.
Воўк за гарою,
Шэры за крутою.
Воўка не баюся,
Кіем баранюся.
Пайду і пасплю хвілінку.

*Каментарый: сцэнка паўтараецца, пакуль воўк не вывалачэ ўсіх авечак. Пастушок будзіцца...*

ПАСТУШОК:
А дзе ж мае авечкі? Ох, сляды нейкія. Пайду, пашукаю. Воўчы след, авечы след, воўчы след, авечы след...

*Каментарый: пастушок ідзе-ідзе і заходзіць да ваўка.*

ПАСТУШОК:
Воўча-воўча, авечак ты маіх не бачыў?

ВОЎК:
Не, не бачыў!

ПАСТУШОК:
А хто ж у тваім двары так мэкае?

ВОЎК:
Гэта мае лісіцы-кухаркі так прыгожа спяваюць!

ПАСТУШОК:
А хто ж у цябе так капыцкамі стукоча?

ВОЎК:
Гэта мядзведзі-малайчыны касы так клеплюць!

*Каментарый: пастушок глядзіць на ваўка скоса, аж урэшце як не закрычыць...*

ПАСТУШОК:
Авечкі-авечкі! Хадзіце ўсе да мяне, хадзіце!

*Каментарый: авечкі выбягаюць, а пастушок зганяе іх да вяскоўцаў.*

ГАСПАДАР:
Каб ваўкі авечак больш не валачылі, на Юр'я трэба іх тры разы абысці свячонаю вярбой.

*Каментарый: гаспадар бярэ вербную ветку і тройчы абыходзіць ды замаўляе...*

ГАСПАДАР:
Вярба б'е —
Не заб'е.
Не хварэйце,
Не дурэйце.
Патаўсцейце,
Адпасіцесь
І ў вёску зноў вярніцесь.

ГАСПАДЫНЯ (*частуе дзяцей пірагамі*):
Давайце дзеці лепш паспяваем песні.

*ЮРАЎСКАЯ*

*Да было ў Юр'я тры дачушачкі,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Першая дачушка — тонка, высока,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Другая дачушка — белая, румяна,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Трэцяя дачушка — чорная, маленька,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Сабраліся к Юр'ю да Юр'евы зяці,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Сабраліся, рахаваліся,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*З малодшага зяця насмяяліся,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Чаму твая жонка — чорна, маленька,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Тонка былінка — чаму яна гнецца,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Белая грэчка — чаму яна горка,*
*Да зялёны явар, дуброва.*
*Пчолка маленька — мёд саладзенькі,*
*Да зялёны явар, дуброва.*

*(Заканчэнне пастаноўкі, а таксама ноты песень — у наступнай „Зорцы".)*



Талон „Зоркі" № 16
21.04.1996

# Рыцар зноў на кані

Сучасная Беларусь вельмі напамінае Польшчу ў час ваеннага становішча. Дэмагогія ў тэлебачанні дасягнула ідэалу. Не хапае там толькі журналістаў і каментатараў у ваенных уніформах. Радыё працуе толькі дзеля аднае мэты — каб усвядоміць грамадзян у тым, якое шчасце іх спаткала, калі Аляксандр Рыгоравіч, прэзідэнт, пачаў клапаціцца аб іх штодзённых справах. Для савецкага чалавека друкуюцца таксама ўсялякія газеты і часопісы, якія пастаянна і дакладна інфармуюць пра стан актуальных роздумаў Шклоўскага Генія.

У краіне ёсць каля паўтара мільёна беларусаў. Гэты лік пастаянна ўзрастае, дзякуючы чарговым гаспадарчым і палітычным дасягненням савецкага кіраўніцтва дзяржавы. Наш чытач з Віцебска даслаў нам матэрыялы тамашняга неафіцыйнага друку, якія адлюстроўваюць палітычную актыўнасць гэтае часткі насельніцтва Рэспублікі Беларусь. Беларускія самвыдаты выконваюць такую самую функцыю, што польскія ў васьмідзесятых гадах. У большасці гэта лістоўкі інфармацыйнага характару, патрыятычная паэзія, паведамленні аб нацыянальных святах, пра якія маўчаць лукашэнкаўскія сродкі масавай інфармацыі.

З дасланай нам літаратуры відаць, што беларуская апазіцыя, не толькі ў Мінску, але таксама і на правінцыі, не апусціла рук. Побач дзяржаўных, лукашэнкаўскіх сродкаў масавай інфармацыі, палітычнай адукацыяй грамадства займаюцца ўсялякія суполкі і неафіцыйныя выдавецтвы. З увагі на ўмовы, у якіх дзейнічаюць, вынікі іх працы даволі добрыя. Напрыклад, 7 лістапада, ці 1 мая беларускі люд на аўтобусах, цягніках, сваіх аўтамабілях, замест на плошчу, дзе стаіць Вялікі Ільіч, накіроўвайся ў вёску, за бульбай, салам, самагонкай, буракамі, цыбуляй. Гэтыя дні сталіся ўжо святам толькі няшчасных пенсіянераў. Затое 25 сакавіка ці 8 верасня нават міліцыянеры ведалі, што нехта нешта святкуе.

Узніклі цяпер даволі спрыяльныя ўмовы для пераўтварэння савецкай масы ў беларускі народ, бо нішто не робіцца так прывабным, як усё тое, што забаронена. „Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг сталі цяпер сімваламі свабоднага чалавека, які ў пашане мае сваю годнасць і з адпаведнай дыстанцыяй ставіцца да хлусні і крывадушнасці, якая безупынна плыве з лукашэнкаўскага тэлебачання. Цяпер толькі некаторыя адчулі вартасць патрачаных сімвалаў. Беларускія камерсанты, банкіры, прадпрымальнікі ўжо са слязамі ў вачах успамінаюць час, калі над Домам урада відней рыцар на кані. Сёння часта яны беспрацоўныя. Неўзабаве і люд фабрычны палюбіць больш княжацкага конніка, чым лукашэнкаўскую капусту. Хлуснёй і страхам кіраўнік краіны не накорміць сваіх падданых, а ніхто, хто хаця трошкі думае, ужо не паверыць у вяртанне дабрабыту з-пад знака сярпа і молата.

**Васіль Кургановіч**

# „Приятного путешествия"

Рэспубліка Беларусь увяла на сваёй мяжы новую мытную дэкларацыю. Гэта асабліва „прыемная" неспадзяванка, калі даведваешся пра яе ноччу. Будзяць цябе, скажам, у рэйсавым аўтобусе Беласток — Менск, загадваюць выносіць на двор прычындалы і тыцаюць у рукі вялікую паперу (фармат А4), густа задрукаваную з абодвух бакоў. Доўга ў прыцемках будзеш разгрызаць сэнс дакумента, пакуль дачытаешся, колькі чаго можна вывозіць з Рэспублікі Беларусь. А гэта, для прыкладу: 20 літраў бензіну „на каждое перемещаемое своим ходом моторное транспортное средство, не считая топлива в заводских емкостях этих средств", 3 прадметы (камплекты) — „пластины, воротники, манжеты, отделки из натурального меха", 5 літраў „алкогольных напитков" (лицам не моложе 21 год) і 2 „единицы ковров".

Потым чытаеш быццам бы знаёмае, што абмежаваны перавоз праз мяжу такіх рэчаў, як: зброя, наркотыкі, атрутныя і радыеактыўныя рэчывы. Затое абзац аб тым, што забараняецца ўвозіць, толькі з аднаго пункта: „печатные и аудиовизуальные материалы, иные носители информации, содержащие сведения, которые могут причинить вред политическим или экономическим интересам республики, ее государственной безопасности, охране здоровья и нравственности граждан". Калі яшчэ да гэтага дадаць, што абмежаваны ўвоз каляровай капіравальнай тэхнікі, дык становіцца ясна, што ўлада лічыць самым небяспечным — некантралюемую інфармацыю, якая можа сапсаваць мараль грамадзян.

Калі ўжо разбярэшся, у якіх клетках ставіць крыжык і дзе пісаць „няма" (гэта не так проста, бо асобныя пункты для рэзідэнтаў, асобныя для нерэзідэнтаў, а яны яшчэ дзеляцца на тых, якія ўязджаюць і тых, якія выязджаюць), можаш пачаць даваць паказанні аб сабе. Хоць ты грамадзянін чужой краіны, трэба напісаць дакладны свой адрас, з назвай вуліцы і нумарам дома). Гэтых даных няма нават у тваім пашпарце.

Новая мытная дэкларацыя, безумоўна, адзін з элементаў „упарадкавання" руху праз польска-беларускую мяжу, чэргі на якой некаторыя лічаць „найбольшай ганьбай сучаснай Еўропы". Калі адстаіш некалькі сутак у чарзе ад Белай-Падляшскай да Тарэспаля, або ад Саколкі да Кузніцы-Беластоцкай, або і ад Гродна да Віскулёў, прыемна ўзяць у рукі дэкларацыю, на якой з самага верху напісана тлустым друкам: „ТАМОЖЕННАЯ СЛУЖБА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ЖЕЛАЕТ ВАМ ПРИЯТНОГО ПУТЕШЕСТВИЯ".

**Мікола Ваўранюк**

# Людзі Палесся

Кандыдацкую дысертацыю Юзэф Абрэмбскі пісаў пад вокам сусветна вядомага этнографа і сацыёлага Браніслава Маліноўскага ў London School of Economics and Political Science. Склаліся на яе даследаванні паўднёвых славан у Македоніі. Пазней, у 1934-37 гадах, у рамках Інстытута даследаванняў нацыянальных спраў сарганізаваў ён шэраг экспедыцый на Палессе, у ваколіцы Кобрына, Пінска, Лунінца, Косава, Століна, Ковеля і Сарнаў. Іх рэзультат — абароненая ў 1945 годзе доктарская дысертацыя „Архаічнае Палессе".

Шэсцьдзесят гадоў пазней па слядах прафесара Абрэмбскага падаліся студэнты сацыялогіі і этнаграфіі Варшаўскага універсітэта. Дзеля праверкі, што змянілася там з даваенных часоў, кім пачуваюць сябе сённяшнія людзі Палесся, як цяпер адказваюць на пытанні, якія задаваў ім ужо прафесар Абрэмбскі.

19 сакавіка ў Музеі незалежнасці ў Варшаве (Алея Салідарнасці 62) адкрылася выстаўка фатаграфій з архіва Абрэмбскага і робленых цяпер студэнтамі. Побач здымкаў прыводзяцца цытаты з прац прафесара і фрагменты запісаў размоў з сённяшнімі палешукамі. Паказаны таксама некаторыя старажытныя прадметы побыту палескай вёскі.

У гэты сам дзень у Казімiраўскім палацы Варшаўскага універсітэта ладзілася навуковая канферэнцыя, прысвечаная Палессю. Выступілі на ёй навукоўцы з Польшчы і Беларусі.

Валер Каліноўскі, журналіст менскай „Звязды", ахарактарызаваў Палессе як рэгён неакрэслены нацыянальна, з павышанай рэлігійнасцю. Найбольш палешукоў схіляецца да погляду, што яны асобная група ў рамках беларускай нацыі, другая група — вакол часопіса „Збудінне" Міколы Шэляговіча — лічыць сябе асобным народам, яцвягамі. Трэцяя частка, гэта тыя, якія пачуваюцца ўкраінцамі. Павышаная рэлігійнасць вызначаецца, між іншым, пашырэннем пратэстанцкіх веравызнанняў, асабліва баптыстаў і пяцідзесятнікаў. Новая рэлігія шмат у чым змяняе і штодзённае жыццё. У пратэстанцкіх вёсках знікаюць традыцыйныя святы, іх жыхары вызначаюцца большай прадпрымальнасцю, што відаць хаця б па шклярнях і парніках.

Д-р Рышард Радзік даказваў, што палешукі — гэта група перадацыянальная, але гэта, хаця рэдкасць у Еўропе, ва ўмовах Беларусі нічога надзвычайнага, бо вялікая частка жыхароў Беларусі на такім жа этапе. У Польшчы падобную з'яву можам наглядаць, казаў д-р Радзік, у паўднёва-ўсходняй Беласточчыне, дзе людзі на пытанне пра нацыянальнасць адказваюць: праваслаўныя.

Прафесар Навіцкая сказала, што некаторыя метады Абрэмбскага з трыццатых гадоў дапамагаюць цяпер у даследаванні сучаснай Афрыкі. Яна асабіста выкарыстоўвала іх у Бураці. На прыкладзе Беларусі можна назіраць цікавую з'яву, як перадацыянальныя сувязі пераходзяць адразу ў наднацыянальныя, прычым без этапу ўласна нацыянальнага. Гэта цяперашнія прарасейскія і прасавецкія выбары.

**Мікола Ваўранюк**

P.S. Выстаўку „Сённяшнія людзі Палесся" можна глядзець да 15 чэрвеня.

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

## Самаўнушэнні

**1**

Нарадзіўся ты,
а плынь прыткая,
на мелі дасяваюць
толькі бомжы.
У грудзях твой ветразь
і ў фантазіі рэальнай,
інакш — пагібель
на завароце шумным.
Калі навокал твань,
упартасць вартая
зялёнага ўзгорка.

**2**

Святар сваё,
жыццё сваё —
у вызначаны шлях.
Шчасце ў руках трымай,
а веды аддай вучням,
як пасяўное зерне
глебе.
А тыя сваім унукам
паўтораць словы,
сказаныя табою.

**3**

Бесперапыннасць нудзіць,
нават празмерная слодыч
не да смаку.
У піжаме і атлет
заўчасна звяне.
Разьблёны ветрам твар
мякка датыкаюць пальцы,
і неабавязкова твае.
Надарыцца выпадак,
плыві з аблокам,
абы
ў патрэбным напрамку.

**4**

Узбіраючыся
на гару крутую,
помні аб спуску.
Цёплая страва
на паўдарозе.
Важны твой вынік
на фінішу.
З гэтай лініі
наступны пачатак.

**5**

Месца, у якім стаіш,
не мусіць быць тоесным
ва ўсіх абставінах.
І ты не мусіш быць тым,
кім з'яўляешся.
Шлах адначасова
пусты —
і ў алеандрах,
ціхі —
і ветраны,
бескаляровы —
і белы.
Ты тут і там,
як свет,
што цябе аблытаў.

**6**

Калі плечы выпрастаны,
то добра,
горб вызначаецца сам,
без нічыёй дапамогі.
Калі нехта стаў на калені,
ты не мусіш,
на каленях — пераможаныя.
Калі вочы бачаць,
хай гавораць вусны,
скарыстае сляпы.
Калі ў цябе моц
аздараўленчая,
не шкадуй яе,
нехта выратуецца.
Цяжэй быць тым,
кім не з'яўляешся.
Тады дзверы насцеж,
хай іх зачыняць
патомкі.

# Быць чалавекам!

У Чаромсе ведаюць яго ўсе жыхары пасёлка. Нават дзецюкі ды старэчы. Ветлівы, спагадлівы, добразычлівы. Кожнаму параіць, дапаможа ў бядзе.

— Гэта сапраўдны начальнік і калега, — гаварылі рабочыя на Чаромхаўскім прадпрыемстве чыгуначнага рухомага саставу.

Янка Кубіцкі, бо аб ім вядзецца гаворка, яшчэ нядаўна працаваў інструктарам машыністаў. І хоць не дасягнуў пенсіённага ўзросту, яго саракагадовы стаж працы на чыгунцы дазволіў яму ў канцы лютага г.г. пайсці на заслужаны адпачынак.

Што сабою прадстаўляе гэты чалавек? Чым заваяваў пашану і давер'е ў асяроддзі?

У чыгуначным пасёлку Кубіцкага лічаць „спецам" па аўтамабілях і ўсялякай тэхніцы. Бывае, што аўтамабіль не запускаецца і тады ідзем да Янкі. Той дапаможа! Халадзільнік ці спіральная машына не працуе, і на гэта знойдзецца лякарства. Ён падкажа, якую антэну для тэлевізара падабраць, як яе на даху зманціраваць... А ўсё гэта робіць амаль бескарысна. Нікому не адкажа.

Памятаю, як у маёй хаце здарыўся выпадак. Жонка трапіла ў дыскавую пілу. Патрэба была хуткая дапамога лекара. А тут вольная субота, чыгуначная амбулаторыя не працуе. Я звярнуўся да Кубіцкага. Ён не адказаўся. Пакінуў работу ў хаце і на сваім аўтамабілі павёз жонку ў гайнаўскую бальніцу. Прывёз назад. А калі я спытаў, колькі яму трэба заплаціць за паслугу, Янка адказаў:

— Не ў грашах, Валодзька, справа. Трэба быць чалавекам!

Аб тым, што Кубіцкага маніла цудоўная магія электратэхнікі, прыгадваю са школы. Сем гадоў разам вучыліся. Памятаю, як Янка прынёс у школьны клас электрычны званок. Сам яго зманціраваў. Настаўніца на занятках фізікі дэманстравала яго вынаходку?!.

— Ведаеш, Валодзька, — казаў мне Янка незадоўга перад свім адыходам на пенсію, калі мы ехалі цягнікам у Варшаву, — абавязкова зайдзі да мяне на работу. Пакажу, якую навучальную залу арганізаваў. З многіх дырэкцый прыязджалі аглядаць. Нават экскурсія з Масквы захаплялася маёй вынаходкай...

Прыманіла мяне запрашэнне. Прызнаюся шчыра, што раней ужо меркаваў зрабіць матэрыял аб ім, бо цікавы з яго чалавек.

Ён быццам не католік. Нашай рэлігіяй цікавіцца. На занятках машыністам са Шлёнска ці Варшавы тлумачыць, чаму на скрыжаванні дарог у пасёлку стаяць разам два крыжы — каталіцкі і праваслаўны.

— Гэта сімвал чаромхаўскага грамадства, — казаў. — Жывем быццам бы ў адной сям'і. Адзін другому не перашкаджаем, ні праваслаўныя католікам, ні католікі праваслаўным. Так і павінна быць у хрысціянскім народзе!

Праз некалькі дзён пазней я пайшоў на прадпрыемства. Навучальная зала, аб якой гаварыў Янка Кубіцкі, напамінала глядзельную залу або аўдыторыю. Радочкам, як салдаты ў шарэнзе, стаялі столікі. Побач — крэслы. Спераду — пісьменны стол, вокны прыслоненыя каляровымі заслонамі. Пад столлю два рады электрычных лямп. З правага боку, угары, завешаны тэлевізар. З процілеглага — відэакамера. На пярэдняй сцяне экран для кінафільмаў. Ззаду, за столікамі, рад чыгуначных семафараў.

— Вось і мая гаспадарка, — з усмешкай кажа Янка. — Падыдзі бліжэй, пакажу сваю вынаходку.

Я падышоў да стала, але гэта не была звычайная мэбля.

— А зараз падымі крышку... Ды не бойся...

Унутры была замантавана нейкая апаратура.

— Гэта і мая вынаходка, — паясняе Кубіцкі. — З таго месца інструктар можа выконваць усе дзеянні неабходныя для навучання. Хопіць націснуць адпаведную кнопку, каб заслініць вокны ці перагарадзіць памяшканне на дзве часткі. Бывае, што тут трэба весці навучанне і машыністаў, і стрэлачнікаў ці дзяжурных. І каб адзін другому не перашкаджаў, „разгараджаем" залу...

— Глянь у тэлевізар... — з той жа самай вясёлай усмешкай кідае ў мой бок сябрук.

У завешаным угары тэлевізары я ўбачыў свой вобраз. Сяджу за сталом і гавару з Кубіцкім. Быццам бы ў кіно.

— Гэта дзякуючы двум відэакамерам, — прадаўжае паясняць мой сябра. — Камера, што з левага боку, перадае ў тэлевізар вобраз з залы, а другая, што змантавана ўнутры, вобраз вядучага лекцыю. У тэлевізары ўсё спалучаецца ў адно.

— Ты сам гэта прыдумаў?

— А хто ж бы іншы!.. Я і радыёвузел арганізаваў. Зараз у нашых службовых памяшканях завеслі гучнагаварыцелі. Хочам, слухаем радыёперадачы, хочам — музыку з магнітафонных касетаў. Ды не толькі ў нашым будынку. Такое ж можна паслухаць у вагоннікаў за пуцямі. Гэта карыснае і начальніку. Калі спатрэбіцца, не трэба клікаць работнікаў у залу. Уключай мікрафон і гавары.

Многае паказваў мне яшчэ Янка Кубіцкі (тут я пагляджэў таксама з відэакасеты „Беларускае вяселле", фільм Тамары Саланевіч і Міколы Гайдука ў выкананні самадзейнікаў з Меляшкоў, Гарадка і Бельска-Падляшскага). І ўсё гэта справа рук звычайнага чыгуначніка, аматара, не прафесіянала.

Хачу адзначыць, што Кубіцкі арганізаваў усё гэта сам. Не пашкадаваў свайго вольнага часу, так зараз усім каштоўнага, ды нават сваіх грошай. Бо і так траплялася, што не ўсе матэрыялы мог дастаць на чыгуначных складах. Да малявання ўнутры намовіў дачку, без лішняй заплаты.

Аб Янку Кубіцкім ніхто з пасёлка не скажа дрэннага слова. Тым больш сярод вагоннікаў, дзе пачынаў чыгуначную працу як змазчык (пасля аглядчык вагонаў), ці на прадпрыемстве чыгуначнага рухомага саставу, адкуль адыходзіў на пенсію.

Сорак гадоў гэта шмат часу! Аднак Янка Кубіцкі патрапіў гэты час выкарыстаць на заваяванне сабе давер'я і пашаны сярод рабочых і начальства. Не толькі як быў змазчыкам ці аглядчыкам вагонаў, ды і тады як быў старшынёй завадской рады прафсаюзаў, ці інструктарам навучання машыністаў.

Вось што гэта значыць быць чалавекам!

**Уладзімір Сідарук**

# Новыя вершы

**Віктар Швед**

**Пытанні ў саракагоддзе БГКТ**

Ці ў ваяводстве самаўрады,
Што ў беларускім асяроддзі,
Самадзейнікаў агляды
Фінансуюць пры нагодзе?
Ці экспанаты з Белавежы,
З ліквідаванага музея,
Да Цеханоўца што належаць,
На іх зварот ці ёсць надзея?
Ці ў нашых школах нечакана
Цуд нейкі ўзнікне з нашай мовай,
Будзе такую мець пашану,
Што станецца абавязковай?
Ці Усявышні нам дазволіць,
Каб мова нашая святая,
Такую адыграла ролю,
Што і ў царкву нам завітае?
Ці мы, старыя актывісты,
Можам на гэта мець надзею,
Што меншасць нашая дачыста
Нам на вачах не анямее?
Пытанні родзяцца адразу
Ў Саракагоддзе чалавеку.
Мо дачакаемся адказу,
Калі сустрэнемся ў Паўвеку?

**Маё грамадзянства**

Я нарадзіўся менавіта
У другой Рэчы Паспалітай.
І да сусветнае няспыніна
Я быў яе грамадзянінам.
А потым здарылася гэтак,
Што прыбылі да нас Саветы
І я тады вось такім чынам
Саюза быў грамадзянінам.
А потым нас запаланіла
Нячыстая фашыстаў сіла
І у зняволенай краіне
Я Рэйху стаў грамадзянінам.
Вайны заціхла кананада.
Народная у Польшчы ўлада.
Я споўніў зноў сваю павіннасць,
Той Польшчы стаў грамадзянінам.
І пасля змен несамавітых
Я ў трэцяй Рэчы Паспалітай.
Хачу дажыць тут, проша паньства,
Без новых зменаў грамадзянства.

# Гібель Папоўкі

(працяг са стар. 1)

гляджу, ужо і сонца высока, і яны толькі патэльнямі бразгаюць, хіба снеданне сабе шыкавалі. То я праз вакно выскачыла, і ў гародчык. Пасядзела, бачу — ціха, пералезла тады праз плот, праз дарогу, і ў жыта. І такім цудам асталася. Прыйшла да Беластока — тут, на гэтай сядзібе, была майго таты цётка — і гавару, што так сталася. На другі дзень яна гаворыць: Ідзі даведайся, што там. Я ўжо да Папоўкі не дайшла, ехалі з Каралёвага Моста і мне сказалі, што ўжо нікога няма — усіх у Гарадку пастралялі. Пайшла да адных знаёмых да Пяшчанік, да другіх — кожны мяне баіцца; такі час — хто данясе, хто нешта скажа... То я пайшла аж да Валіл, там мая знаёмая была. І яна кажа: У нас таксама нельга начаваць, бо і да нас немцы прыходзяць. Дарадзіла мне ў жыце пераначаваць — прынесла мне кажух, хустку. Ну і я так да раніцы прасядзела ў тым жыце. Раніцай забрала яна свае рэчы, а я зноў у жыта, бо таксама баялася. Падслухала, як людзі вялі коней і гаварылі, што немцы прыказалі ехаць усім на Папоўку і вывозіць, што асталося. Я падышла з другога боку, паглядзела — дах здымалі з двух дамоў, што новыя былі. Што забралі, а што асталося, тое ў аўторак спалілі.

А я пабачыла — і ў Беласток. Іду, едуць дзве фуры, мужчыны вязуць бульбу. Я папрасіла і яны мяне падвезлі. Едзем, а яны мяне пытаюць, адкуль я, куды іду. Я ім усё расказала. Надышла навальніца, яны коней пад дрэвам паставілі, паселі, пасілілся, я з імі пасядзела. Дождж спыніўся, а той, што мяне вёз, кажа: Знаеш што, я цябе далей не павязу. Таксама баяўся. Але другі кажа: Сядай на маю фуру, што будзе, то будзе. Так я вярнулася ў Беласток. Хацелася потым на роднае...

З ацалелых печаў людзі пазабіралі цэглы, кафлі тады не было. Яшчэ нейкі час на месцы вёскі авечак пасвілі, кароў. Але як парабілі калёніі, то ўжо кожны на свае калёніі пас. Пазней фундаменты зараслі травою, цяпер іх ужо цяжка знайсці.

Навесну 1945 года, калі ўжо немцаў не было, перапахавалі пабітых. Людзі з Пяшчанік парабілі труны, паклалі ў іх па дзве-тры асобы і перавезлі на могілкі ў Каралёвы Мост, дзе і пахавалі іх у супольнай магіле.

Тут жыў адзін такі, жонку з Каралёвага Моста трымаў, якога немцы яшчэ ў сорак другім годзе забралі. Самагонку гнаў і, як убачыў немцаў, хацеў уцякаць. То немцы яго і яшчэ аднаго, „варшавяка", забралі і пасадзілі. Таго „варшавяка" забілі, а гэтага выпусцілі. Я аднойчы яго спытала, чаму так сталася. А ён адказаў, што яму Бівойна памог... А за што яму Бівойна памог?! За тое, што ён Бівойну прывёў на Папоўку! Бо ён ужо пасля вайны то ніколі ў Пяшчаніку не паказаўся.



*Тут была Папоўка.* Фота А. Вярбіцкага

Там былі *рускія* партызаны, але яны ў сорак другім адышлі — у Белавежу ці куды. Асталіся толькі мясцовыя. З Пяшчанік было трох братоў, ніводнага жонкі не зачапілі. А, што, ён не знаў, дзе іх жонкі ў Пяшчаніках? Напэўна знаў! А такога пастуха, што толькі кароў пасвіў, то з жонкай і аднагадовым дзіцём расстралялі...

На заканчэнне размовы Эліза Матэйчук прынесла здымак перапахавання апошніх жыхароў Папоўкі. Гэта адзіная памятка па людзях, сярод якіх яна выхавалася.

Будучы ў Пяшчаніках схадзіў я ў Папоўку. Прасунутай у снезе дарогай хтось зрабіў след трактарам, хтось санямі. Тоўстае снежнае пакрывала прыкрыла і камень, і падставу помніка, які, як сказалі мае суразмоўцы, паднішчаны і вымагае рамонту. Пахіліліся прыціснутыя снегам ядлоўцы, быццам ушаноўваючы памяць вёскі, якой папялішчы ажыўляюць іх.

У чэрвені сорак трэцяга Папоўку ажыўлялі дзеткі. Можа босыя, можа ў адных толькі сарочках. Не ўсе яны яшчэ ведалі пра вусатых праваддыроў, якія ў сваіх праваддырскіх букварах вельмі клапаціліся пра іх, дзетак, лёс.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# А я іду сабе па Беластоку

**альбо Як пан рэдактар Яўген Мірановіч прасіў мяне падзяліцца ўражаннямі ад Беласточчыны**

Я іду па Беластоку. Па любімай маёй Ліпавай, каля Ратушы, падыходжу да чырвонага касцёла. Старыя прыгожыя дамы, вуліца кладзеная косткаю. Колькі ж тут прайшло людзей з тых даўніх часоў! І мае Папярэднія, таксама тут: дзед, прабабка, яшчэ, яшчэ нехта. Вунь, выцягнуліся ланцужком, гадоў на 200, калі не болей. Дзіўнае пачуццё нерэальнасці ахоплівае мяне, быццам след у след іду я за імі, пераступаючы часам родную сцежку. Пэўна ж нехта з іх прайшоў пад гэтым вакном, кранаўся менавіта гэтых дзвярэй. Што гэта, сентыментальнасць, містыка? Відаць нездарма мой улюбёнец, пісьменнік Уладзімір Караткевіч, вуснамі аднаго са сваіх герояў назваў беларусаў „самай рамантычнай нацыяй у свеце”...

* * *

Упершыню на Беласточчыну з Беларусі я прыехаў у маі 1992 г. разам з дзіцячай эстраднай групай, якой кіраваў мой сын Зміцер. Праграма была даволі напружанай: канцэрты, знаёмствы ў школах, экскурсіі. За дзецьмі ж трэба глядзець, пакарміць, прыбраць. Да таго ж я быў пры іх перакладчыкам у разе патрэбы. Ледзь знайшоў я некалькі гадзін, каб сяк-так пазнаёміцца з горадам.

Гэта цяпер мяне не напалохаеш ні Слюсарскай, ні Элеватарскай вуліцай. А тады, памятаю, пайшоў я праз парк уніз ды ўлез у нейкія цесныя брукаваныя завулкі. Ледзь не заблытаўся. Было цікава, бо забудова нагадвала часам Брэст, часам Гродна. Але ў якім стане ўсё гэта было, Божа ж мой, Божа! У Брэсце да раёнаў старой забудовы ўлады ставяцца куды больш абярэжліва. Ва ўсякім выпадку такіх абадраных, аблупленых дамоў я там не бачыў.

Прайшло амаль 4 гады. Гэтым разам я прыехаў на больш працяглы тэрмін і вырашыў знаёміцца з наваколлем спакойна і сістэматычна. Дзеля гэтага пайшоў пешшу ад ПКСу ў рэдакцыю „Нівы". Прайшоў новабудоўлі, папаў на Сасновую. Іду сабе паціху, торба цяжкая, сцежка цеснаватая, снегу па калена — набіраюся ўражанняў. Аж на табе — першае. Ззаду нехта ціхенька: „Przepraszam bardzo!” Ага, думаю сабе, тут абгон адбываецца па ўсіх правілах, бо ў нас у такім выпадку выбачаюцца адно інтэлігенты, а так можна атрымаць штуршок ў плечы. А тут паўз мяне — прыгожая, зграбная, сярэдняга ўзросту, брунетка, вочы ясныя! Пакуль я надумаўся, ці не пачаць адразу да яе заляцацца, яна абцасікамі туп-туп-туп — і знікла паміж будынкаў... Вось, спадар Мірановіч, маё першае ўражанне ад Польшчы: няма чаго старому хрычу ганяцца за дзеўкамі па Беластоку. І яшчэ: старыя будынкі, нават калі яны аблупленыя — гэта ўсё роўна прыгожа.

Калі гаварыць сур'ёзна, дык для мяне першапачатковыя ўражанні ад кожнай новай мясціны, дзе б я ні бадзяўся па свеце, заўсёды складваліся з тых „дробязяў”, што мясцовыя жыхары ўжо і не заўважаюць, лічаць само па сабе зразумелымі. Потым ужо, праз нейкі час надыходзіць разуменне нечага важнага, сапраўднага, сталага.

Нармалёвы „савок" заўсёды цікавіцца, дзе б тут нечага „дастаць". Беларускія гандляры-чаўнакі наогул нічым не цікавяцца, бо ўсё наперад ведаюць. Для іх галоўнае — хутчэй абярнуцца з таварам цераз мяжу. Канечне, гэта справа істотная, але для мяне другарадная. Вось архітэктура, гісторыя, рэлігія, сродкі масавай інфармацыі, тэатр — гэта мая парафія. І самае для мяне цікавае: як людзі кантактуюць адно з адным, аб чым і як яны размаўляюць.

Скажу шчыра, узровень паспалітага хамства на Беларусі непараўнальна вышэйшы, чым у Беластоку. Нецэнзурная лаянка ўголас, з удзелам моладзі, жанчын, дзяцей, у школе, у аўтобусе, на вуліцы — гэта ў нас справа звычайная. Канечне, і тут я меў нагоду паслухаць у нейкім варштаце і пра „халеру ясную”, і „idź panie do d...” і яшчэ многа чаго прыемнага. Калі можна так мовіць, гэта пасавала і да брудных камбінезонаў, і да цяжкай фізічнай працы гэтых людзей. У кожным разе лаянка не выходзіла за дзверы майстэрні. Падслухаў я некалькі энергічных выразаў у маладзёжным асяроддзі, але супраць нашых — слаба. Гэта ж цалкам прыстойныя людзі, спадар рэдактар! Можа б яшчэ змаглі паспрабаваць з нашымі тыя алкаголікі, што ў гарачым маі 1992 г. збіраліся ў скверы каля Ратушы, але няма іх пакуль, відаць, занадта холадна яшчэ. Што тычыцца цяжкіх „рускіх” выразаў, то ўпершыню я пачуў іх у... Беластоцкім тэатры, дзе яны былі ўкладзены ў вусны герояў п'есы і цалкам адпавядалі абставінам: дзеянне адбывалася ў турме.

Дарэчы, ад наведвання тэатра і філармоніі я атрымаў вялікую асалоду і справа тут не толькі ў высокім узроўні рэжысуры і выканання. Як прафесійны музыкант я станоўча сцвярджаю: Беласток можа ганарыцца існаваннем такіх калектываў і такіх мастакоў, як Міраслаў Блашчык і Анджэй Якімец.

Але я бачу тут яшчэ адно: няма такой значнай розніцы паміж „сталічным” і „правінцыяльным”, як у нас на Беларусі. У Польшчы непараўнальна больш сімфанічных аркестраў, оперных і драматычных тэатраў, эстрадных выканаўцаў, і вельмі многія „правінцыяльныя” дэманструюць еўрапейскі ўзровень майстэрства. У нас жа пабудавана сапраўдная ідэалагічна-адміністрацыйная піраміда сталіца — вобласць — раён — сяло. Чым ніжэй, тым горшае забеспячэнне, спецыялісты, вытворчасць, культура — усё, за выключэннем некаторых спецыфічных рэчаў.

Нічога не буду гаварыць пра сферу абслугоўвання, гандаль і г.д. І гэта толькі з тае прычыны, што на Беларусі проста няма адпаведнага з'явішча ні ў колькасці, ні ў якасці. Я так думаю, што адных толькі пунктаў прождажу ды абслугоўвання аўтамабіляў у Беластоку больш, чым ва ўсёй Беларусі, дзе пераважаюць непаваротлівыя, дарагія і эканамічна неэфектыўныя амаль на 100% дзяржаўныя „Дамы быту” ды магазіны, якія выклікаюць толькі раздражненне кліентаў. Не, прабачце, менавіта ў гандлі ў Беластоку напаткала мяне прыгода, ад якой я станоўча аслупянеў і сёння яшчэ часам разгублена ўсміхаюся. Справа была вельмі простая: будучы ў SAMe, забыўся я купіць хлеб. Па дарозе дамоў напаткаў невялічкі „Sklep nocny”, што на скрыжаванні Вясёлай і Вашынгтона. Зайшоў, папрасіў бохан. Чароўная пані Галіна прынесла мне **два**: „А каторы вам больш даспадобы? Вось гэты — больш запечаны". І сціпла стаіць сабе, чакае, пакуль я выбіраць. У першы момант мяне аж заткала, але ўжо такая-сякая звычка да „дробязей” з'явілася і з важнаю мінай толькі мог сказаць — вось гэты, калі ласка. Я гатовы закласці сваю рэнту на год, абодвух сабак і машыну супраць паламанага гузіка, што на Беларусі вы такога не сустрэнеце, спадар Яўген, нідзе, нават у самым спецыялізаваным магазіне. Мне думаецца, што пані Галіна ў гэтым выпадку дбала не толькі пра выкананне свайго абавязку, ці пра рэкламу магазіна, ці ў рэшце рэшт — пра мой страўнік. Яна была папросту ўважлівай да чалавека. Гэткія рэчы робіцца не ад абавязку, а недзе на генным узроўні, ад звычкі, ад традыцыі. На фоне гэтых двух боханаў ад пані Галіны знакаміты лозунг з часоў КПСС „Усё дзеля дабра чалавека, усё — у імя чалавека" выглядае нейкім садысцкім здзекам.



*Іду я сабе па Беластоку. Прыгожыя дамы, прыгожыя людзі на вуліцах...* Фота Я. ЦЕЛУШЭЦКАГА

На жаль, не ўдалося мне пазнаёміцца з дзейнасцю Праваслаўнай царквы на Беласточчыне. Пасля размоў з людзьмі ў мяне ўтварылася ўражанне, што становішча праваслаўных вернікаў тут не самае найлепшае. Але існуюць пэўныя традыцыі больш глыбокія і сталыя, чым на Беларусі, дзе ўсякая рэлігія доўгі час была пад забаронаю і цяпер толькі пачынаецца яе адраджэнне. У такім Петрыкаве (менш чым 10 тыс. насельніцтва) у пачатку стагоддзя было ці не дзесяць цэркваў, каталіцкі касцёл і сінагога. Сёння — адзіны айцец Васілій на дзве цэрквы. Вернікаў, праўда, значна прыбыло, але ўсё ж гэта толькі пачатак.

Тым больш прыемна мне было сустрэцца на Беластоцкім радыё са святарамі айцом Аляксандрам і айцом Маркам з Васількава і Чорнае-Беластоцкай, якія чыталі свае казанні на беларускай мове. У нас калі і выступіць нехта з іерархаў па-беларуску, дык гэта ўжо сенсацыя, бо і ў царкве і ў жыцці святары карыстаюцца выключна рускаю моваю.

Галоўным, дзеля чаго я прыехаў сюды, было навучыцца нечаму новаму і карыснаму ў рэдакцыях газет і па радыё. Такім чынам я ізноў падаўся ў студэнты. Ну, рабіце са мною што хочаце, спадар Яўген, але ж я не магу не пахваліць сваіх калег! І сапраўды, журналісты ў большасці маладыя, адукаваныя, аператыўныя. Кожны сваю справу выдатна ведае, што ў „Ніве", якую я шчыра віншую з 40-годдзем, што на Беластоцкім радыё.

Пазнаёміўся я з польскай прэсай. Вельмі цікава. Асабліва аб'явы ад сельскіх хлопцаў, што жонак сабе шукаюць. Ды што ж вы робіце, мужыкі! Не ў „Kurier Poranny” трэба аб'явы даваць, а ў „Петрыкаўскія навіны”. У нас дзяўчат на сяле — аж занадта. Маладыя, прыгожыя, гаспадарку ведаюць. Ды яна табе з адной рыдлёўкаю ўсе гектары за дзень перакапае. А калі навучыш яе на трактары ці камбайне — будзеш сядзець у прахалодзе ды дым з цыгары пускаць. І накорміць няблага, толькі кахай яе, ды прэзенты час ад часу паднасі і да цешчы на бліны раз у год заязі. Гэта ж будзе жыццё! Паспрабуйце, хлопцы, можа пашанцуе.

Але галоўнае для мяне ізноў жа іншае. Прэса тут больш разнастайная, вострая, аб'ектыўная, інфармацыя непараўнальна шырэйшая і рознабаковая. Чытач мае выбар — ад афіцыёзу да самай крайняй апазіцыі. У гэтым сэнсе Беларусь засталася далёка ззаду, асабліва калі за „свабоду слова” ўзяліся сп. Замяталін і іншыя.

Гэта ж скандал: салідная дзяржава ў цэнтры Еўропы — і забаронены публікацыя і распаўсюджванне апазіцыйных газет, пазбаўляюцца ліцэнзій незалежныя радыёрэдакцыі, прычым гэты не па судовай пастанове, а проста, як слуп — адміністрацыйным чынам, як гэта адбылося з нашай, петрыкаўскай рэдакцыяй. Ну, разумею я: Беларусь у чатыры разы па насельніцтву меншая за Польшчу. Ці азначае гэта, што сімфанічных аркестраў, „Sklepów nocnych” з паняй Галінаю, валютных запасаў, незалежных газет, магазінаў запасных частак, „toalet publicznych” і іншага ў нас мае быць у дзесяць разоў менш, чым у Польшчы? Ну аніяк прапорцыя не атрымліваецца. 2 х 2 чамусьці не роўнае 4. Ці не з дурной галавы?..

Вядома, і Польшча яшчэ далёка не вырашыла гэтую, пэўна самую складаную матэматычную задачу. Але відаць ужо нейкі рух, ужо ёсць надзея, што вынік паступова наблізіцца да жаданага.

Вядома, спадар Мірановіч, і мае нататкі могуць быць павярхоўнымі дый памылковымі. Добра мне, жывучы за кошт гаспадароў, не зарабляючы свой хлеб надзённы цяжкай працаю, разважаць аб суседскіх праблемах. Але, падсумоўваючы свае ўражанні ад ціхага „przepraszam bardzo” да магутнага fortissimo ў сімфанічным аркестры, я ўсё часцей думаю: калі ж прачнецца мой народ, расплюшчыць вочы, зразумее, што толькі сапраўдныя справы вырашаць яго лёс; што не столькі з уладаю трэба змагацца, колькі з сабою, са сваёй інертнасцю, бояззю, цемраю і быдляцтвам. І што дарога наша — толькі наперадзе, і нельга больш губляць час на вынаходніцтва веласіпеда...

* * *

Іду я сабе па Беластоку. Старыя прыгожыя дамы, прыгожыя людзі на вуліцы, кладзенай косткаю. Сярэдзіна сакавіка, а як жа ж яшчэ холадна. Снегу насыпана ў гэты год — ое-ёй! Але ўжо цяплее паціху і вецер нібыта з поўдня цягне. Вясна, браточкі, вясна набліжаецца...

**Андрэй Яўтуховіч**

# Позірк у мінулае

**21 красавіка**

1519 г. — Эрнан Картэс прычаліў да берагоў Мексікі і аб'явіў далучэнне дзяржавы ацтэкаў да Іспаніі.

1843 г. — нар. Вальтэр Флемінг, нямецкі біёлаг, адкрывальнік храмасомаў.

1884 г. — нар. Уладзімір Аркадзьеў, савецкі фізік, адкрывальнік ферамагнетычнага рэзананса.

1926 г. — нар. Елізавета II, каралева Вялікабрытаніі.

1960 г. — урад Бразіліі перанёсся з Рыо-дэ-Жанейра ў новую сталіцу — Бразілію.

**22 красавіка**

1370 г. — у Парыжы паложана краеугольны камень пад крэпасць Бастыліі, сімвал пазнейшага каралеўскага дэспатызму.

1500 г. — мараплавец Пэдра Кабрал дабіў да бразільскага берага і аб'явіў партугальскае панаванне над новай краінай.

1870 г. — нар. Уладзімір Ульянаў (Ленін), расейскі палітык.

1904 г. — нар. Джуліус Апенхеймер, канструктар першай атамнай бомбы.

1915 г. — пад Іпр (Бельгія) нямецкія войскі ўпершыню прымянілі ядавіты газ.

1951 г. — пачатак наступлення 400 тыс. кітайскіх салдат у Карэі супраць прадстаўляючых ААН амерыканскіх войск.

**23 красавіка**

1564 г. — нар. Вільям Шэкспір, англійскі паэт і драматург, а ў 1616 г. пад той самай датай памёр.

1616 г. — памёр Мігель Сервантэс, іспанскі пісьменнік.

1886 г. — нар. пісьменнік Змітрок Бядуля.

**24 красавіка**

1817 г. — немец Карл Фрыдрых Драйс паказаў павозку на двух колах, названую *драйзінай*, папярэдніцу сённяшняга веласіпеда.

1967 г. — аварыя касмічнага карабля „Саюз-1"; на яго барту загінуў касманаўт Уладзімір Камароў.

1971 г. — у Вашынгтоне 500 тысяч чалавек дэманстравала супраць вайны ў В'етнаме.

1990 г. — амерыканскі касмічны карабель *Discovery* вынес на арбіту тэлескоп *Hubble*, варты 1,5 млрд. долараў ЗША.

**25 красавіка**

1918 г. — нар. Эла Фіцджэральд, амерыканская джазавая спявачка.

1945 г. — сустрэча амерыканскіх і савецкіх войск пад Торгаў.

1974 г. — „рэвалюцыя гваздзікаў" у Партугаліі — звяржэнне арміяй фашыстоўскай дыктатуры.

**26 красавіка**

1937 г. — нямецкія самалёты разбурылі Герніку — „святы горад баскаў".

1986 г. — а гадзіне 1.45 два ўзрывы разарвалі дах аднаго рэактара ў Чарнобылі. Вызвалена радыяцыя у 30-40 разоў мацнейшая, чым у Хірасіме.

1994 г. — першыя дэмакратычныя выбары ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы.

**27 красавіка**

1887 г. — у Філадэльфіі (ЗША) упершыню хвораму выдалена апендыкс.

**(Ш)**

# ПАРНАСІК

## Тэлерэклама

Мне памятаюцца трыццатыя гады,
Калі на вёсцы радыё не гасцявала
Ды кіно рэдка бачыў хто тады,
А сёння вось што аказалася.

На кожнай страсе (праўда, ужо іх мала)
Тэлевізійныя антэны высяцца.
А па хатах цудоўныя скрыначкі граюць,
І на экранах жывыя вобразы свецяцца.

Усё было б добра, толькі на бяду,
Калі цікавае нешта аглядаеш,
Ураз рэкламу розную даюць
І вось што на экране маем.

Дзесяткі парашкоў — самыя лепшыя
Для сціркі, для змывання, для ўсяго.
Шчоткачкі для зубоў — сорты першыя,
Ды „Блендамед" і „Сігналь" да таго.

А тут жавачкі з мятай, кока-кола,
Ды „Рама", „Кама", „Кася", „Ціна".
Усё ўнушаюць табе паняволі,
А так хацелася б глядзець кінакарціну.

Проста баішся, дзе не пераключыш,
Усюды з'явяцца назойлівыя рэкламы.
Як можна было да гэтага дапусціць,
Каб так папсавалі тэлепраграмы.

Страх уключыць святло ці ваду,
Мо з крана выпырсне кока-кола,
А замест святла, на маю бяду,
Бліснe рэклама. Вось якая доля.

**„Улас"**

## Любе Гаўрылюк

Дзякуй табе, Люба,
За тваю натуру,
Што так пашыраеш
Родную культуру.
Цесна ты звязалась
З жанчынамі з Козлік.
Вось за гэта дзякуй!
Павядзі іх добра.
Хай яны спяваюць,
Песняй весяляцца,
Каб з уладай у Заблудаве
Добранька з'яднацца;
Можа штось падарыць,
Хоць будзе крывіцца
Калі нашы песні
Ў гміне будуць ліцца.
Хай ляцяць высока
Яны ў свет шырокі,
Так, каб забалелі
Абібокам бокі.

**Мікалай Лук'янюк**

## Сей авёс у гразь

„Сей авёс у гразь —
Будзеш князь" —
Прымаўка народная,
Мо цяпер нямодная.
Аднак гэта верна!
І выходзіць дрэнна,
Калі авёс пасеем
І ў час не паспеем.
Калі ўпадзе ён на раллю сухую,
Будзем мець долю злую.
Часта авёс нам не ўраджае,
Вырасце пустазелле, а ён прападае.
Ды ёсць адна „закавычка",
І то не прывычка:
Авёс можам пасеяць у балота,
Але далейшая работа?
Трактар застрагне
І барану не пацягне.
І таму чакаем на пагоду
І на сялянскую работу.
Сеем на сухія скібы, загоны.
Трэба даваць Богу паклоны,
Каб скора наша поле Ён арасіў
І прыроду ажывіў.
У коніку наша надзея
І добрая падзея.
Конік не баіцца балота
І пойдзе работа.
Пасеем, папружынуем, завалочым
І скора ўбачым:
Авёс пасеяны ў гразь
Вырас буйна, як адважны князь.
Выдасць плён багаты, дарагі,
Што не пойдзем у даўгі.
Ды сёння мала хто коніка гадуе,
А трактар не заўсёды нас паратуе.

**Мікалай Панфілюк**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. супрацоўнік Леніна, 7. горад над Сожам, 8. моцны вецер, 9. англійскі філосаф, заснавальнік пазітывізму, 10. пашкоджанне машыны, 14. прэзідэнт Расеі, 18. раздзел матэматыкі, 19. чорная таполя, 20. экс-прэзідэнт Польшчы, 21. доіць кароў.

**Вертыкальна:** 1. стан задаволенасці, 2. збожжа з доўгімі вусамі, 3. ткацкі станок, 4. верхняя тканка цела чалавека. 5. расліна сямейства агававых, 6. возера ў Фінляндыі, 11. чорнае цвёрдае паліва, 12. фламандскі жывапісец (1577—1640), 13. халодная ўсходняя зброя з выгнутым лязом, 15. драпежная жывёліна сямейства куніц, 16. салодкі прадукт, 17. правы прыток Віслы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 8 н-ра:

**Гарызантальна:** шпак, камар, ужытак, арол, выраб, афонія, Глыбокае, масаі, латочнік, Наманган, Расін, Атанасаў, Мадрыд, фраер, арба, націск, аршын, альт.

**Вертыкальна:** гарыла, павага, парабала, кулак, былое, калій, блізняты, фатограф, мана, Сумы, аніс, акын, ансамбль, Аўрора, Іберыя, загад, Арнім, атака.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Андрэю Самборскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што мы з сяброўкай кудысьці дабіраемся, па нейкіх чыгуначных пуцях, а тых рэек так многа ды пуці пераблытаныя, разыходзяцца ва ўсе бакі. То іду я па полі паміж імі, то па пуці, але ўсё трэба перабягаць, зыходзіць з дарогі, бо ва ўсіх напрамках едуць цягнікі — і паравозы, і электрычкі, то нейкія вельмі ж сучасныя, накшталт ракет... А мы ўжо недалёка ад станцыі.

І вось мы ўжо на месцы, г.зн. у нейкай драўлянай хатцы над рэчкай. Тая хатка вясковая, старэнькая, але гэта — гатэль. Я выходжу, стаю перад хаткай, гляджу, а тая рэчка — як возера, а нават і як мора яна, і прыбой падыходзіць усё бліжэй да хаткі, хвалі набягаюць, вада гудзе. Мне робіцца страшна, што вада знясе той домік. З гэтага перапалоху я і прачнулася.

**Бажэна**

Бажэна! Мушу з жалем сцвердзіць, што падсцерагае цябе (або сяброўку) нейкая небяспека. Аб цяжкасцях няўхільна сведчаць тыя пераблытаныя між сабою пуці, якія перашкаджалі вамісці да мэты, але асабліва вялікую небяспеку прадказваюць тыя цягнікі, якія ехалі ва ўсіх напрамках і былі вельмі розныя па форме — ад паравоза да напамінаючых ракеты. Відаць, што цяжкасці атакуюць цябе з розных бакоў.

А нават ужо, калі вы быццам апынуліся на месцы, у нейкай драўлянай хатцы, дык з рэчкі зрабілася ледзь не мора, а хвалі набягалі і ў кожную хвіліну маглі падмыць і знесці тую хатку. Пагроза, вялікая пагроза тваёй экзістэнцыі. Нават у сне цябе агарнуў страх. Баюся, што давядзецца табе надта асцерагацца і ў жыцці.

**Астрон**

## Ліст у рэдакцыю

Дарагая Рэдакцыя „Нівы"!

Я ваш тыднёвік заўсёды чытаю і хачу вам расказаць як будаваўся Храм Гасподні ў Малінніках.

Калі быў зроблены падмурак і мелі ставіць храм, тады мне прысніўся сон, што пры падмурку стаіць мужчына, ад якога ішло ззянне. Палажыў ён руку на падмурак і сказаў: „Гэта будзе Храм Юнацкі, не апаганены жанчынамі". Потым прысніўся другі сон: калі сталі зводзіць кроквы, то пры студні з'явіўся св. Гаўрыіл, які сказаў, што тут знаходзіцца крыніца жыватворнай вады. Я падышла і стала прыглядацца, як чысты ручай бяжыць у дзверы храма. Потым я падышла да св. Гаўрыіла, але яго ўжо не было. На гэтым ручайку ставім крыжы. Адзін з іх высвячаны, а другі яшчэ не. Крыжы людзям многа памагаюць.

Як прывезлі пустакі, то здарыўся цуд — могілкі гарэлі, а як паставілі каталіцкі крыж, то праз паўгадзіны зноў паявілася ззянне на капліччы. Прашу вас, дарагія, калі будзеце ставіць крыж, то з-пад споду пакрапіце яго святой вадой.

**Анна Бандарук,**
**Рутка**




**„Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# Ніўка

# Пастараўся

Уздыхае цешча ў скрусе:
— Чую блізенька бяду.
Скора я памру ўжо мусіць,
У зямельку адыду.

Ты б дамовіўся, зяцёчак,
Каб на могілках у нас
Лепшы мне знайшлі куточак...
Пастарайся ўжо —
Хоць раз!

Зяць старую супакоіў:
— Знаю з кім пагаварыць.
Месца знойдзецца такое.
Толькі трэба магарыч.

— О, зяцёк, на клопат гэты
Можаш нават сотню ўзяць!
...Ноччу добра падагрэты,
Прыблукаў з задання зяць.

— Дзе быў, з кім піў —
Не пытайся.
Пастараўся — млосна аж!
Ты ж на пятніцу збірайся:
Месца выбіў —
Сам хоць ляж!

**Мікола Чарняўскі**

# Гаспадар

Аднойчы п'янага Кузьму
У хату не пусціла Франя,
І давялося спаць яму
На ганку ночку ўсю да рання.
А раніцою кум Захар
Убачыў — бацюхны! — на ганку,
Анучаю прыкрыўшы твар,
Спіць кум, скруціўся абаранкам.
— О, Божа мой! — здзівіўся кум. —
Ды што з табою? — ён пытае. —
І што за вэрхал, што за тлум,
Што жонка ў хату не пускае?
Хвіліна паўзы. І Захар
Такі адказ ад кума чуе:
— Тут я у доме гаспадар!
Дзе захачу, там і начую.

**Ігнат Сабчук**



*Мал. Алега ПАПОВА*




*Мал. П. Козіча*

# Пагаварылі

15.00 — Алё! Любы?.. Мне сумна дома адной, і я вырашыла табе пазваніць. Што ты робіш?..

— Працую, спраў многа... Ну, пакуль.

15.20 — Алё! Любы?.. Ведаеш, мне здалося, што ты гаварыў са мною неяк сухавата...

— Я ж на рабоце, тут людзі... Да вечара!

15.30 — Алё! Гэта ты?.. Усё-такі, ты мог бы сказаць мне што-небудзь ласкавае.

— Я заняты! Усё! Вечарам скажу!

15.35 — Алё!.. А зараз ты мне не можаш сказаць? Раней ты на плошчы крычаў аб сваім каханні, а зараз баішся!.. Не, скажы, што кахаеш мяне... Давай, паўтарай за мной: я цябе...

— Я цябе слухаць не хачу! Дай мне спакойна працаваць!

15.38 — Гэта ты, ануча?.. Дык вось, калі ты зараз не скажаш, што любіш мяне, я ад цябе пайду!

— Гладкай дарогі!

15.40 — Пачвара?! Я сабрала рэчы... Ну, што скажаш?..

— Ідзі к чорту!

15.42 — Усё, нягоднік, я адыходжу, бывай!.. Га?..

— ...? ..!

15.43 — Алё! Ты яшчэ не пайшла?.. Тады слухай: я кахаю цябе, зараза, каб ты здохла!

— Ну, вось... Не затрымлівайся сёння, я пірог спякла...

**Сяргей Валянцеенка**

# Смех у санаторыі або „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Размаўляюць два сябры:

— Я ўчора забіў сабаку.

— Быў ён шалёны?

— Ну, на задаволенага то ён не выглядаў.

* * *

— Якая вяршыня расізму?

— Піць віскі „Black & White" у двух аддзельных кілішках.

* * *

У офіс прыходзіць беспрацоўны:

— Я хацеў бы атрымаць працу; у мяне дзесяцёра дзяцей.

— А што яшчэ ўмееце рабіць?

* * *

— Што зробіце, калі не запусціце рухавік? — пытае экзаменатар кандыдата ў вадзіцелі.

— Загляну пад крышку.

— А пасля?

— Пачну праклінаць.

* * *

— Пан майстар, катора гадзіна?

— А знаеш, я таксама напіўся б...

* * *

— Цудоўны ў цябе самаход; колькі на ім выцягнеш?

— Тры—чатыры дзяўчыны ў тыдзень.

# Хітры дзед

Прыходзіць да дзеда журналіст і бярэ інтэрв'ю.

— Скажыце дзядуля, а ў вас СНІД ёсць?

„Што гэта за СНІД? — думае стары. — Няма дурных: табе скажы, што ёсць, то ты тут адразачку і папросіш: маўляў, дай і мне. А як скажаш, што няма, то яшчэ падумае, што ж ты за гаспадар, калі ў цябе нават і нейкага СНІДу няма".

— Ёсць, сынок, але трошкі. Для мяне і для маёй сям'і.

# Цнатлівая

Я яе кахаў. Суседзі кажуць, што яна мяне таксама кахала. Што ж, магчыма, і праўда, толькі я гэтага не заўважаў.

За два месяцы сямейнага жыцця я яе пацалаваў толькі адзін раз. Гэта было ў ЗАГСе. І адразу ж за гэта на двары атрымаў аплявуху. Спалі паасобна. Яна — у пакоі на канапе, я — у ваннай на кушэтцы.

— Наталля, муж я табе ці не муж? — аднойчы сказаў я ёй. — Ты зразумей...

Яна моўчкі паглядзела на мяне такімі вачамі, быццам упершыню ўбачыла цягнік. І раптам схапіла за горла і пачала душыць.

— Дурніца! — вылаяўся я, як толькі вызваліўся ад абдымкаў жоначкі. — Ты што, да гэтай пары думаеш, што цябе ў капусце знайшлі?

У той страшны дзень я яшчэ дзве гадзіны тлумачыў ёй, чаму Бог, які стварыў чалавека, у дадатак вылепіў і Еву. А калі прыйшла ноч, поўны жыццёвых сіл і ўпэўненасці ў сабе я рвануў да шлюбнай пасцелі.

— Расказвайце, расказвайце, я вас уважліва слухаю, — сказаў лекар скурна-венералагічнага дыспансера, працягваючы штосьці запісваць у медыцынскую картку.

**Сяргей Наско**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я вучуся ў восьмым класе. Вельмі люблю спорт і таму займаюся баскетболам. Мінулым летам я паехала ў спартыўны лагер разам з маімі сябрамі і сяброўкамі са школы.

Было шмат моладзі. Адразу падзяліліся на пары. Мне было смешна, але часамі думалася, што мо я нейкая ненармальная, бо мне непатрэбна была ніякая пара, я хацела гуляць і весяліцца разам з усімі.

Найбольш, аднак, займалі мой час трэніроўкі. Пасля мы купаліся, вечарам хадзілі ў дыскатэку. Праз нейкі час я заўважыла, што дзе б я не была, усюды сочаць за мною вочы аднаго хлопца. Быў гэта прыемны бландзінчык з Варшавы. Вучыўся ён ужо ў ліцэі, быў старэйшы за мяне на два гады.

Неяк ён адважыўся, падышоў да мяне, нешта загаварыў — так мы пасябравалі. Дзяўчаты казалі: „Ну, нарэшце і яна раскруцілася!" А мне ізноў было смешна, бо мы ж нічога такога не рабілі, проста хадзілі ўвесь час разам. Дальбог, Сэрцайка, мы нават не пацалаваліся. Разам было нам аднак прыемна і цікава размаўлялася. Відаць было, што і хлопец быў яшчэ неспакушаны. І яму дастаткова было хадзіць усюды са мною, гуляць разам у баскетбол, купацца, танцаваць, заглядаць мне ў вочы, гаварыць, што я вельмі прыгожая, што падабаюся яму.

Калі пасля лагера мы ўсе раз'ехаліся па хатах, было крыху сумна. Неўзабаве я атрымала ліст з Варшавы. Хлопец пісаў, што не знаходзіць сабе месца, так яму сумна. Не можа нічога рабіць, нічым канкрэтным заняцца, бо пастаянна думае пра мяне. Я яму адразу адпісала.

Пачалася школа, а мы не парывалі сувязі. Лісты да мяне прыходзілі вельмі часта. І раптам перасталі прыходзіць зусім. Я была крыху здзіўлена, але не дурыла сабе галавы наконт таго, чаму ён замоўк. Сказала толькі сяброўцы, што ён перастаў мне пісаць, а яна падсумавала: „Пэўна, закахаўся ў іншую! А мо проста часу не мае, шмат заняткаў у школе..."

Ну, не — дык не! Я жыла сабе спакойна, шмат часу прысвячала школе ды спорту. У пачатку лістапада ў нас на стадыёне было спартыўнае свята, але мне неяк туды адной не хацелася, а наша каманда не брала ў ім удзелу. Праседзела цэлы дзень у хаце, глядзела тэлевізар.

На другі дзень прыходжу я ў школу, а да мяне кінуліся сяброўкі: „Чаму ж ты, дурніца, не прыйшла? Юрка цябе цэлы дзень чакаў. Сядзеў на лавачцы каля стадыёна, між дрэвамі. Кружыў навокал, усё выглядаў цябе!"

Я кажу, што непатрэбна чакаў, бо я ж з ім не дамаўлялася. Што ты, гаворыць мне сяброўка, ён сказаў, што ў лісце назначыў вам сустрэчу!

І тут нешта мяне ціюкнула. Прыходжу я са школы дахаты і пытаюся ў бацькоў, ці не прымалі яны маю карэспандэнцыю. Бацька неяк схаваў вочы, замітусіўся, выйшаў з пакоя. А маці кажа: „Не гневайся на яго, дзіця! Бацькі ж табе кепскага не зычаць!"

І тут мяне панесла. Дык што, я нават ужо не маю права свой ліст адчыніць?! Дальбог, Сэрцайка, не была я закаханая ў гэтага хлопца, але ўзяла мяне злосць. Ці бацькі павінны былі чытаць і хаваць лісты, адрасаваныя мне? Ці маіх бацькоў ніхто не вучыў культуры?

**Аня**

Ціха, ціха! Разышлася ты, Аня. Напэўна, брыдка чытаць лісты, адрасаваныя іншай асобе. Але ты — іх дачка, і зрабілі яны гэта з добрым намерам.

Бацькі заўсёды баяцца, каб іх дзеці ў нешта брыдкае не ўлезлі. Яны ж не ведалі, хто гэта і што, ды і не імкнуліся даведацца, бо лічаць, відаць, што да замужжа ў цябе яшчэ шмат часу. А яшчэ ж колькі вучыцца! Перапужаліся, відаць, што справа сур'ёзная, і разарвалі тую нітку, якая спалучала цябе з гэтым хлопцам, — карэспандэнцыю. А дахаты да цябе прыйсці ён, бачыш, не адважыўся. Можа, і добра, што так скончылася. Перад табой — жыццё.

**Сэрцайка**